

**Зноў адкрыты павільёны Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.** На здымку (уверсе): **ля павільёна прыбалтыйскіх рэспублік.** (Унізе): **від на плошчу Калгасаў.**

Фото А. Дзітлава.



У калгасе «Рассвет» Кіраўскага раёна за сем месяцаў гаспадарчага года надоена ад кожнай каровы па 1389 кілаграмаў малака. Гэта самыя высокія надоі ў рэспубліцы. Група даярак праслаўленага калгаса займае вядучае месца сярод перадавых даярак рэспублікі. Пачэсная роля ў барацьбе за высокія надоі малака належыць маладой даярцы Надзі Бяляўскай. Яна надаіла каля двух тысяч кілаграмаў малака ад кожнай замацаванай за ёю каровы.

На здымку: Н. Бяляўская.

Фото І. Пікмана.



Беларускі павільён Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Стэнд ільнаводства.

Фото М. Ананьіна.



Беларускі павільён Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Піонераў зацікавілі плады, вырашчаныя на пладова-гароднняй станцыі.

Фото М. Ананьіна.





## НА ПЯТЫ ФЕСТЫВАЛЬ

У гэтым годзе ў Варшаве адбудзецца V Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. З усіх канцоў свету ў сталіцу народна-дэмакратычнай Польшчы прыедуць пасланцы моладзі. Яны зноў прадэманструюць сваё непарушнае адзінства, сваю цвёрдую волю адстаяць справу міру ў імя шчасця народаў. Паедзе на фестываль і дэлегацыя савецкай моладзі. У яе ўваходзіць і Беларускі народны хор, які складаецца з моладзі. Удзельнікі фестываля пачуюць нашы песні, пазнаёмяцца з мастацтвам беларускага народа.

На здымках: **выступленне хора** (унізе); **выступленне танцавальнай групы; жаночая група хора выконвае беларускую народную песню «Рэчанька».**

Фото А. Дзітлава.

На першай старонцы вокладкі: **эканаміст Мінскага аўтазавода Тамара Аляксандраўна Цюрына з дачкой Маргарытай, якая вучыцца ў музычнай школе.**

Фото М. Ананьіна.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **у Белавежскай пушчы.**

Фото І. Пікмана.



Мінск наведала дэлегацыя Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая. Гасцей шчыра віталі піянеры сталіцы Беларусі. На здымку: член дэлегацыі Ван Сін-юань з піянеркай, якая прыйшла вітаць кітайскіх гасцей.

Фото А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 6(27).

Чэрвень

1955.

# Маладыя, дужыя, бадзёрыя

Фотанарыс А. ДЗІТЛАВА

Гадзіны адпачынку. Студэнты прыйшлі на сваю баскетбольную пляцоўку.



Стаць дужым, спрытным, рашучым і смелым, стаць праваднікам фізічнай культуры ў масы народа — такая мара студэнтаў Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга інстытута фізічнай культуры.

Спартсмен! Гэта адначасова пачэсна і цяжка. Шлях ад ранішняй гімнастыкі да самастойнага выступлення на заваяванне сусветнага рэкорда вельмі складаны. З першых дзён уступлення на гэты шлях спартсмен заняты бесперапыннымі трэніроўкамі. Трэніруецца воля, мускулы, выпрацоўваецца рытмічнасць у рабоце ўсяго арганізма. Хуткасць, націск, дакладнасць становяцца адметнымі якасцямі чалавека.

Для тых, хто сядзіць на трыбунах стадыёна, спорт з'яўляецца прадметам любавання, асалоды, яны захапляюцца прыгажосцю, лёгкасцю, пластыкай рухаў. Для спартсмена кожнае выступленне — праца. Праца ў літаральным разуменні гэтага слова: з мазалямі, з потам, з перадышкамі.

У нашай рэспубліцы вялікая армія фізкультурнікаў. Год ад году памнажаюцца кадры выкладчыкаў фізічнага выхавання, трэнераў, спартыўных суддзяў. Цэнтрам іх падрыхтоўкі з'яўляецца інстытут фізічнай культуры.

Трэба прайсці чатыры гады ўпартай вучобы, перш чым заваяваць дыплом. Лекцыі па фізіялогіі будуць змяняцца практычнымі заняткамі ў хімічнай лабараторыі. Псіхалогія, педагогіка, гігіена, лячэбная фізкультура, грамадскія навукі... Кніга за кнігай, залік за залікам, курс за курсам. У першыя-ж дні заняткаў ад студэнта патрабуецца рашэнне: у якім відзе спорту ён жадае быць асабліва падрыхтаваным.

У дадатак да звычайнага аб'ёму лекцый і семінараў уводзяцца заняткі па спецыялізацыі. Мяч, штанга, бегавая дарожка, рапіра, рынг, кап'ё... Так студэнт прыходзіць да вываду аб неабходнасці займацца спортам не толькі ў вучэбны, але і ў вольны час.



Штурхае ядро студэнт III курса другаразраднік Уладзімір Лабаноўскі.

Заканчэнне года адзначаецца курсавой работай. Складанасць работ расце з году ў год. Студэнт чацвёртага курса Грыгорый Майзельс, рыхтуючыся ў гэтым годзе атрымаць дыплом, напісаў работу на тэму «Тактычная падрыхтоўка барца». Знешне — гэта сорак старонак машынапіснага тэксту, ілюстраванага фатаграфіямі. Па зместу — перад намі сур'ёзнае даследаванне. Аўтар у сваёй рабоце прыводзіць цікавы ўрывак з кнігі пра рускага асілка І. М. Паддубнага: «Іван Максімавіч Паддубны любіў гаварыць — «У барацьбе ўсё галоўнае: і рукі, і ногі, і плечы, і шыя, і спіна, і жывот, і грудзі, і... — тут Іван Максімавіч, хітра прыжмурыўшыся, дадаваў: — ... і галава!» Гэтая фраза як-бы вызначае прынцыпы падрыхтоўкі савецкага спартсмена наогул, дапамагае ў вызначэнні яго годнасці.

Людзі, якія заканчваюць Беларускі інстытут фізічнай культуры, маюць вельмі добрую пад-

У зімовым плавальным басейне. Трэцекурснік Міхаіл Залеўскі выпрацоўвае тэхніку павароту ў плаванні кролем.





Выкладчык Е. А. Нагорны тлумачыць тэхніку валодання мячом пры ігры ў валейбол.

Ідзе ўрок барацьбы. Выкладчык П. В. Грыгор'еў сочыць за тым, як удасканальваецца прыём перакідвання цераз грудзі.



рыхтоўку. Яго выхаванцамі ўстаноўлен шэраг сусветных і еўрапейскіх рэкордаў. Беларускім спартсменам апладыравалі стадыёны Масквы, Пекіна, Лондана, Прагі, Парыжа, Берліна... Нашы спартсмены прадстаўлялі Савецкі Саюз на Алімпійскіх іграх. У гарады і сёлы рэспублікі паехалі шматлікія выкладчыкі і трэнеры, падрыхтаваныя інстытутам. У самім інстытуце зараз працуюць 37 былых студэнтаў. Многія з іх маюць вучоныя ступені, кіруюць кафедрамі. Гэта — І. А. Кулак, К. І. Кулінковіч, М. Е. Фёдараў, А. К. Самусевіч, Г. А. Гальдштэйн і іншыя.

Старшы выкладчык Віцебскага тэхнікума фізічнай культуры В. С. Туміловіч, былы студэнт інстытута, быў сярод групы спецыялістаў, якія рыхтавалі беларускую дэлегацыю на парад фізкультурнікаў у Маскве ў 1954 годзе. Былы студэнт інстытута, фехтавальшчык А. Аўсянкін — прызёр першынства СССР. Адным з лепшых гімнастаў Савецкага Саюза з'яўляецца майстар спорту Е. Ленскі; агульнавядомыя імёны і заслугі лёгкаатлетаў М. Іткінай, М. Крываносава, А. Юліна; назабыўныя выступленні акрабата, майстра спорту В. Ржэускага. Усе яны, а таксама многія іншыя вядомыя спартсмены атрымалі падрыхтоўку ў беларускім інстытуце. Многія першакурснікі маюць ужо спартыўны разрад. 120 студэнтаў уваходзяць у склад зборных каманд БССР. У ліку цяперашніх студэнтаў інстытута — 29 чэмпіёнаў і рэкардсменаў рэспублікі.

Трэніроўка ў бегу. Наперадзе: (злева направа) А. Хакала, В. Грыцкевіч і Ю. Фядотава.





Студэнтка другога курса майстар спорту Майя Шышкіна робіць стойку.

Да прадстаячай спартакіяды народаў СССР інстытут узяў абавязацельства падрыхтаваць яшчэ 8 майстроў спорту, каля ста першаразраднікаў і амаль трыста суддзяў.

Так дзень за днём у сценах інстытута і на яго спартыўных пляцоўках няспынна выкоўваецца сіла, мужнасць, здароўе.



Васіль Ісакаў за работай.

# КАБ СПЯВАЛА ДУША

Васіль МАТЭВУШАЎ

## I

Толькі што гудок абвясціў канец рабочай змены. Рабочыя выходзілі з прахадной будкі і ішлі хто ў сталовую, а хто — дадому. Віктар стаяў крыху воддаль ад расчыненай брамы і пільна ўглядаўся ў людскі паток. Ён чакаў свайго брата Васіля. У яго засталося мінут дваццаць часу, а брат усё не выходзіў. «Няўжо якоенебудзь пасяджэнне?» — падумаў Віктар і нервова зірнуў на круглы электрычны гадзіннік.

А вунь і Васіль паказаўся. А што-ж то за маладая дзяўчына з ім? Твар яе, відаць, узбуджаны. Яна нешта спрачаецца з братам. І здалёк відаць, што яна пазбягае глядзець яму ў вочы. Віктару стала неяк няёмка, што ён мімаволі стаў сведкай ці то грамадскіх, ці то асабістых непрыемнасцей у Васіля. Ён нават падумаў, ці варта сёння сустракацца.

Непадалёк ад прахадной будкі Васіль і дзяўчына спыніліся. Віктар быў зусім блізка і чуў, як яна шчыра падзякавала брату і ўпэўненым голасам сказала:

— Я сёння абавязкова прыйду, паслухаю цябе... — Сказала і пайшла сваёй дарогай.

Віктар хутка дагнаў Васіля і з нейкай падазронасцю зірнуў у яго спакойны загарэлы твар.

— Я цябе з пяці гадзін чакаю, — незадаволена сказаў ён. — У мяне ёсць пільная справа да цябе.

— Раз пільная, — з жартам у голасе сказаў Васіль, — давай, гавары.

— Дырэктар нашага рамеснага вучылішча вельмі цябе прасіў, каб ты прыйшоў і расказаў навучэнцам аб сваёй працы на заводзе.

— Добра! Перадай, што абавязкова прыйду! — нечакана хутка згадзіўся брат. — А яшчэ што?

— А яшчэ? Яшчэ хачу, каб ты параіў мне, куды пайсці працаваць.

— А як ты сам думаеш? — хітравата спытаў Васіль.

Віктар адразу не знайшоўся, што сказаць. Ён нервова тузаў гузік на сваім форменным шынялі. Пасля таго, як ён убачыў Васіля з дзяўчынай, у яго нават з'явілася думка далей з'ехаць ад брата. «Васіль ужо сталы, можа ажаніцца вось на гэтай дзяўчыне, а калі я застануся пры ім, толькі замінаць буду».

Васіль не спяшаўся прапаноўваць што-небудзь брату. Ён пільна ўглядаўся ў віктаравы вочы. А той, нібы саромеючыся, не вытрымліваў братавага позірку, мо' таму, што яму не было чаго сказаць. Ён, уласна кажучы, сам яшчэ нічога не думаў аб будучай сваёй рабоце.

— Чаго ты разгубіўся, хлопча?

— Ды я так, нічога, — адказаў Віктар. — Куды пашлюць, туды і паеду.

— Гэта правільна. А няўжо табе не шкада пакідаць родны горад, мяне?

Віктар маўчаў. Васіль ведаў, як цяжка хлопцу сказаць штонебудзь пэўнае. «Трэба знайсці найбольш правільнае рашэнне, падказаць хлопцу», — падумаў старэйшы брат.

— Ты прачытаў раман «Журбіны»? — нібы недарэчы спытаў Васіль.

— Прачытаў, заўтра прынясу! — абыякава адказаў брат.

— Няўважліва ты яго, відаць, чытаў!

— Чаму няўважліва? — схамянуўся брат. — Усё магу расказаць!

У Васіля на твары з'явілася радасная ўсмешка.

— А я не выпадкова спытаў у цябе пра гэты раман. Ведаеш што, Віця, вось цяпер на заводзе толькі адзін Ісакаў — я. Ты прыдзеш — будзе два, а пройдуць гады, Ісакавых можа стаць стольکі, колькі Журбіных на верфях.

— Ты збіраешся быць у ролі Мацвея Журбіна? — з прыкметнай іроніяй падкусіў Віктар.

— Не пярэчу! — згадзіўся брат. Браты весела засмяяліся.

— Добра, застануся з табой. Няхай мацнее сям'я Ісакавых, — адказаў Віктар і яшчэ раз папярэдзіў брата, каб не спазніўся на выпускны вечар.

## II

Віктар з двума сябрамі — выпускнікамі рамеснага вучылішча — пасяліўся ў пакоі брата. Васіль адразу папярэдзіў новых жыхароў, каб яны строга прытрымліваліся інтэрнацкага парадку.

Маладыя слесары Валянцін Бруkавец і Міхаіл Тарасаў насцярожана і ўважліва сачылі за паводзінамі і дзейнасцю Васіля. Яны ўжо добра ведалі, што Васіль — лепшы токар механазборачнага цэха, член камітэта комсамольскай арганізацыі завода, актыўны грамадскі працаўнік.

Васіль часта заходзіў да хлопцаў, пытаў у іх пра першыя самастойныя крокі на вытворчасці. Суцяшаў іх пры няўдачах, якіх было нямала. Аднаго разу маладыя слесары прыйшлі вельмі засмучонымі. Васіль яшчэ ў цэху даведаўся, што хлопцы пры зборцы, не зусім добра разбіраючыся ў чарцяжах, пасварыліся з майстрам. Амбіцыя ў іх такая. З-за гэтай амбіцыі яны нават у сталовай у час абеду накінуліся на афіцыянтку, абразілі яе.

— Нешта вы сёння як не свае? — запытаўся Васіль.

— Што, зноў, можа, на вытворчай нарадзе будзеце дапякаць? — едка адказаў Міхаіл Тарасаў і са злосці сеў у ватоўцы на ложак.

Васіль адчуў, што ў ім закіпае нейкая ваяўнічая злосць на гэтага хлапчука, але ён стрымліваў сябе і стараўся як мага спакайней сказаць:

— А ўсё-такі нядобра ў замурзанай ватоўцы коўзацца па пасцелі!

— Дзякую за заўвагу! — ехідна адказаў Міхаіл і неахвотна ўстаў з пасцелі.

— Ды ў цырульню схадзіў-бы, а то зарос, як стары дзед, брыдка на цябе глядзець.

Відаць было, што Віктар і Валянцін не спачувалі Міхаілу, яны стараліся ўхіліцца ад гаворкі і таму без ніякай патрэбы поркаліся ў тумбачках і шафе.

— Сядайце! — нечакана прапанаваў Васіль. — Я прынёс з сабой чарцяжы. Паглядзім, што тут і як.

Віктар і Валянцін хуценька і неяк паслухмяна селі за стол. А Міхаіл бавіўся, відаць было, што няёмка хлопцу так адразу здавацца. Але, счакаўшы нейкі момант, і ён далучыўся да сяброў.

— Ну, вось і свая хатняя вытворчая нарада! — сказаў Васіль.

— Вы мне даруйце, я крыху пагарачыўся. Настрой сапсавалі ў сталовай, — пачаў апраўдвацца Міхаіл.

— Нічога, Міхаіл! Гэта бывае.

... Дні ішлі неяк непрыкметна. Вось ужо і канец іх першага працоўнага месяца. Сябры стаялі перад акенцам, праз якое відзён быў касір, што адлічваў заробленыя грошы. Віктар і яго сябры, атрымаўшы першую сваю заработную плату, чакалі Васіля ў прахадной. У кожнага былі свае планы, як адзначыць атрыманне першай заработнай платы. Але хлопцы маўчалі, ніхто не рашаўся пачынаць.

Васіль выйшаў з цэха з той-жа дзяўчынай, якую Віктар тады бачыў ля прахадной будкі. Яна весела смяялася і, нібы незнарок, раз-по-раз пазірала на маладых слесараў.

Віктар ужо ведаў, што яе завуць Ніна, што яна працуе ў механазборачным цэху рэвальвершчыцай і што брат ёй многа ў чым дапамог, каб яна стала лепшай рэвальвершчыцай.

— Хлопцы, павіншуем Ніну, пажадаем ёй поспеху. Яна сёння ідзе здаваць экзамены на атэстат сталасці, — прапанаваў Васіль. — А то-ж выдумала была — хацела пакінуць завод і дзесяты клас вячэрняй школы. Ледзьве ўтрымаў яе.

«Малайчына які ў мяне брат», — падумаў Віктар і ўголас ужо сказаў:

— Ведаеш, Вася, мы сёння атрымалі грошы і вырашылі іх аддаць табе. Будзь ты нашым міністрам фінансаў і вядзі наш бюджэт.

— Згодзен! А ведаеце, хлопцы, сёння і ў мяне вельмі радасны дзень: вы першы раз атрымалі заработную плату, а я... — не дагаварыў ён і кінуў усхваляваны позірк на хлапцоў. — А я...

— Ну, кажы, што ты? — дапытваліся хлопцы.

— Пасля вам скажу, калі тое будзе...

## III

Сябры даручылі Віктару перагаварыць з братам і даведацца, ці падтрымае ён іхнюю ініцыятыву аб стварэнні комплекснай брыгады па зборцы паравых машын сілавых установак.

Васіль уважліва выслухаў брата.

— А ці справіцеся? — з перасцярогай запытаў ён. — На гэтым працэсе ўсе работы высокага слясарнага класа.

— Спадзяемся, што справімся. Гэта наша агульная думка!

У час перапынку на абед начальнік цэха Леў Давідавіч Шынднес сабраў маладых слесараў. Перад гэтым ён меў размову з Васілём Ісакавым.

Леў Давідавіч падрабязна расказаў аб складанасці работы зборачнай брыгады. Але хлопцы, уважліва выслухаўшы начальніка цэха, і не думалі адступаць ад свайго намеру. Шынднес даў згоду.

Віктар добра ведаў сваіх сяброў, ведаў, што і як яны могуць рабіць, на што яны здатныя. Адно хвалявала хлопца — якасць. Першыя

дні былі трывожнымі. Не ладзілася прыгонка кліна і паза ў шатуне.

Аднаго разу перад заканчэннем рабочага дня Васіль зайшоў да брата. Ён быў пахмуры і незадаволены. Перад ім ляжаў чарцёж.

— Ну, як? — пацікавіўся ён.

— Адно ідзе на лад, другое ўпоперак дарогі становіцца, — скардзіўся Віктар.

Паклікалі старшага майстра Міхаіла Сямёнавіча Казлова. Ён праверыў дэталі, якія былі дастаўлены з механічнага цэха: пасля даўбёжкі яны не адпавядалі зборачным памерам.

— Так, так! — многазначна прагаварыў ён. — Не хвалюйцеся, тут не ваша віна. У механічным дрэнна адрэгуляваны працяжны станок. Давядзецца рабіць дадатковую шаброўку.

А праз колькі дзён прыйшла першая перамога. Маладзёжная брыгада зборшчыкаў Віктара Ісакава стала перавыконваць зменныя заданні. Прадукцыйнасць працы павысілася на 15 — 20 працэнтаў...

Васіль у канцы рабочай змены зайшоў, каб павіншаваць брата з першай вытворчай перамогай. Ён не гаварыў гучных, напышлівых слоў, а толькі спытаў у Віктара:

— Цяпер ты зразумеў, навошта я табе даваў тады чытаць «Журбіных»?

— Зразумеў, і сам бачу, што хутка на нашым лакамабільным будзе свая дынастыя Ісакавых.

— Якая-ж у нас дынастыя? Мы-ж усяго ўдвох, — не разумеючы, спытаў Васіль.

— Можа быць і не ўдвох. А як ты думаеш, Васіль, Ніна да нашай дынастыі далучыцца?

— Адкуль-жа мне вядома?

— Каму-ж тады вядома, як не табе, — загадкава ўсміхнуўся Віктар, гледзячы на брата і заўважыўшы, як той густа пачырванеў.

Міхаіл з Валянцінам таксама засмяяліся, толькі адзін Леў Давідавіч, не разумеючы, пагляддаў то на аднаго, то на другога брата. Але і яму радасна было глядзець на гэтых маладых хлопцаў, якія, як яму думалася, назаўсёды звязалі свой лёс з лёсам дружнага рабочага калектыву. І ў яго, як і ў гэтых хлопцаў, молада спявала душа. Раптам Віктар звярнуўся да Васіля:

— А ты тады і не сказаў нам, якая ў цябе радасць была.

— Затое цяпер скажу. Я ў той дзень падаў заяву аб прыёме ў партыю.

— Ну і як?

— Яшчэ не разглядалі.

— Прымуць цябе, Васіль! Вядома, прымуць, — гуртам сказалі хлопцы. — Каго-ж тады прымаць, як не цябе.

З завода хлопцы ішлі разам. На заводскім двары ўжо зазеляненлі маладыя ліпкі і клёны. Хлопцы ўспомнілі, як у лістападзе мінулага года яны садзілі іх тут.

— Вунь глядзі, Віктар, гэта-ж мой клянок такі лапушысты, — сказаў Міхаіл.

— А вунь мая ліпка, — адказаў Віктар.

І хлопцам радасна было глядзець на тыя маладыя дрэўцы, якія цягнуцца маленькімі кронамі да сонца. На душы ў кожнага рабілася так хораша-хораша. Хацелася, каб яна спявала і спявала.

**г. Магілёў,**
**лакамабільны завод.**



Віктар Ісакаў (у цэнтры) з брыгадай зборшчыкаў паравых машын.
Фота А. Рыўкіна.

Міхась КЛІМКОВІЧ

## Пчалярка

Пад гарой, ля зялёнай дубровы,
Дзе вуллі у высокай траве,
У хаціне збудованай новай
Маладая пчалярка жыве.
Падышла яна, слова сказала,
Паглядзела з-пад думных павек
І ў палон узяла, завязала
Белы свет мне, здаецца, навек.
Здагадалася, мабыць, адчула —
Больш да нас, цесляроў, не прыйшла

І за новыя брамныя шулы
Толькі позіркам нас правяла.
З той пары я блукаў невясёлы,
Як мядзведзь, каля пасекі той...
Часта бачу, як кружацца пчолы
Над яе галавой залатой.
І зайздрошчу стварэнням крылатым,
Уздыхаю — вакол цішыня...
Эх, пайду, папрашу, каб у сваты

За мяне сам ішоў старшыня.
На рабоце не лыкам я шыты,
А прызнацца ёй — слоў нестае...
Эх, дзяўчына-пчалярка, зірні ты
На цяжкія пакуты мае.
Не блукаў каб адзін сіратою
Каля пасекі вечарам я,
Каб з табою, табой залатою,
Спалучылася доля мая.

## Выйдзем, любы, у жытное...

Вышыў прошвай залатою
Месяц поля шыр і гладзь.
Выйдзем, любы, у жытное
У гэты вечар пагуляць.
Бачыш, ветрык пералівам
Спелы колас долу гне...
Што ён шэпча ціхім нівам,

Ты скажы на вуха мне.
Я-ж скажу табе, што раннем,
Засяваючы зярно,
Ты не бачыў, як каханнем
Пала ў сэрца мне яно.
Узрасло вясной і летам
Разам з жытам залатым...

Хай раскажа нам аб гэтым
Сіні вечар у жытным.
Хай насустрач засмяюцца
Светлым звонам паплавы,
Хай, як роі, мроі ўюцца
Ля дзявочай галавы.

Віктар ДАЮЖЭНАК

## У млыне

Спачынку не ведае млын:
Працуе штодзень крупадзёрка...
Наўкруг ля каша між мужчын
Ажыўлена льецца гаворка.

— Пшанічка, як золата! Свет
Такой 'шчэ ніколі не бачыў, —
Калгаснік з арцелі «Рассвет»
Прыўзнята і горда адзначыў. —

Калгас наш і сёлета змог
Рэкордныя зняць ураджаі,

Герояў ажно чатырох
За гэта, таварышы, маем!

А лён не ўрадзіў так нідзе.
Вось гэта, скажу, быў палетак!.,
— А нас (вы чыталі ў "Звяздзе"?)
Хвалілі таксама за гэта.

А яслі, а школа...
— Чакай, —
Дзядок перабіў барадаты, —

Вы чулі пра наш «Першамай»?
А бачылі сад яго, статак?

Калгас наш і тым яшчэ люб,
Што слаўна жыве у ім кожны..
Я сам, вось, наўрад ці змялю
За тыдзень усё сваё збожжа.

Нам шчасце прынёс працадзень,
Такога раней мы не мелі... —
А млын несціхана гудзе,
Багацце калгаснае меле.

# Добра быць пераможцам



Мал. Ю. Пучынскага.

Уладзімір КАРПАЎ

Раздзел з другой кнігі рамана «За годам год»

1

Хмара праходзіла недзе бокам. Але адзін яе край усё больш і больш ахоплівaў неба. І адсюль, з бегавой дарожкі, здавалася, што яна насоўваецца проста на стадыён.

Пазіраючы на хмару, Валя вярнулася на старт. Яна зноў папраўліла станочкі, звыкла апусцілася на калена і ўпёрлася рукамі ў чорную жарству.

У такой насцярожанай, нібы перад узлётам, паставе яна заўсёды хвалявалася. Асабліва паміж камандай «Падрыхтавацца!» і стрэлам суддзі — у імгненне, ад якога пачыналіся поспех або няўдача. І цяпер Валя таксама адчула халаднаватую пустату ў грудзях. Каб прыцішыць хваляванне, яна нахмурылася і скоса глянула на Алу Понтус, якая таксама выйшла ў фінал і па чыёй віне забег прыходзілася пачынаць нанава.

Ала бегала з высокага старту і таму вольна стаяла каля сваіх станочкаў, узяўшыся рукамі ў бакі. Загарэлая, танклявая, яна свяцілася заўзятасцю і, мусіць, зусім не хвалявалася. Нешта свавольна-хлапечае было ў яе постаці, у яе дзёрзкім з капрызным падбародкам твары. І толькі бант, які матылём сядзеў над коратка падстрыжанай грыўкай, ды характэрны згіб яе стану не пасавалі да гэтага. Ала адчула, што на яе глядзяць, і асцярожна азірнулася. На твары яе праступіла разгубленасць, але, перахапіўшы валін позірк, яна ветліва ўсміхнулася і падміргнула ў адказ.

— Падрыхтавацца! — падаў каманду суддзя.

Рывок у Валі на гэты раз быў не зусім удалы.

Павяла Ала Понтус. Нецярплівa пераадолеўшы першыя, заўсёды цяжкія, метры, яна прыгожа і лёгка пабегла ля самай броўкі футбольнага поля, і бант матылём запырхаў над ёю. За ёю ішла студэнтка медінстытута — паўнаватая высокая дзяўчына з гордай, у вянку важкіх кос, галавою. Медычка ўпарта махала рукамі і нібы бегла ўгору. І чамусьці было дзіўным, што ёй удаецца ісці крок у крок з танклявай імклівай Алаю. Ззаду, Валя ведала, беглі яшчэ двое. Адну з іх яна адчувала ў сябе за спіною і, здавалася, улаўлівала яе дыханне.

Было ва ўсім гэтым нешта крыўднае. І ўжо ў канцы стометроўкі Валя паскорыла крок, але тут-жа стрымалася. Сур'ёзна, як сказаў-бы ёй гэта Зімчук, загадала сабе: «Спакойна, Валюша! Спакойна. Ідзі, як вырашыла. Па графіку, партызанка! Па графіку».

Пільна сочачы за тым, хто бег наперадзе, Валя прайшла стометроўку. Зараз для яе самым важным было выбраць момант, калі можна будзе паскорыць тэмп, і не прапусціць, калі хто-небудзь з суперніц зробіць памылку або проста акажацца няздатным для барацьбы.

Не, Валя не зычыла ім благога, яна толькі прагнула перамогі. І калі-б Ала Понтус і медычка прабеглі рашаючую дыстанцыю лепш за яе, яна ад душы павіншавала-б іх... Але ўсё-ж такі тут была бегавая дарожка, і на ёй памылкі і слабасці трэба караць — караць хоць-бы тым, што адбіраць ад суперніц гонар быць першымі. Ды і вельмі хораша, калі перамагаеш!

У пачатку другой стометроўкі Валя заўважыла, як адлегласць паміж Алаю Понтус і медычкаю стала змяншацца. Відаць, апошняя наважылася вырвацца наперад. Аднак калі яна, настойліва набіраючы хуткасць, пачала абыходзіць Алу, тая таксама пабегла хутчэй, падалася бліжэй да краю дарожкі, і медычка, якая бегла каля самай белай лініі, ледзь не наскочыўшы на Понтус, страціла тэмп.

«Вось з гэтай і ваяваць», — усё-ж падумала Валя і на паваротцы рэзка рванулася ўперад.

Да яе даляцеў выбух рознагалосага гоману і асобныя выкрыкі. Стадыён падбадзёрваў, перасцерагаў, даваў парады.

Каму?

Валі захацелася зірнуць на трыбуны.

Каму?..

«Ну, вядома, мне, — чамусьці паверыла яна. — Хто-ж гэта абганяе на віражы, калі бегчы не так зручна?.. Спакойна, Валюша, спакойна, партызанка... Ды не хвалюйцеся і вы, сябры! Нічога. Я нешта маю на мэце... Бачыце, як занервавалі мае суперніцы... Ну!..»

Яна яшчэ больш паскорыла тэмп і, калі зноў пабегла па прамой, зусім не здзівілася, што Алы Понтус, хоць яна бегла па першай дарожцы, побач ужо не было, а локаць у локаць бегла адна толькі медычка. Краечкам вока Валя бачыла яе моцныя, з ружовымі каленамі, ногі, мільганне рук ды ўпарта нахіленую галаву.

І раптам Валя адчула стомленасць. Пачалі дрантвець плечы. Ад ног узнімалася цёплая млявасць і, разліваючыся па целе, агортвала сэрца. Яна ведала, што гэта можа прайсці, трэба толькі не верыць ва ўласную слабасць, падавіць яе, сабраць волю, думкі ў адно, звязаць іх у вузел. А потым — зрабіць так патрэбнае, бадай, вышэй сваіх сіл, намаганне. Ну!..

Над трыбунамі зноў узняліся рознагалосся, як галчыны лямант, выгукі, свіст, воплескі.

— Валя, пераключай на апошнюю!

— Паднацісні, Ліда! Паднацісні!!

— Рукамі, рукамі мацней! Не дзе дзенуцца!..

— Глядзі, не падай...

— Алачка! Понтус! Алачка, давай і ты!

— Ве-е-рас! Далібог, у складчыну прэміруем!.. Давай, давай!!

«Гэта ўжо нашы... — падумала Валя. — Мілыя балельшчыкі мае!.. Вядома, прэміруеце... Не дзе дзенецеся і вы».

Цяпер яна бегла ўжо з натхненнем, амаль забыўшыся на сябе. Навакольнае знікла для яе. Засталося толькі адно — запаветная белая стужка фінішу. Валя прагнула толькі аднаго — крануцца гэтай стужкі. Стужка вабіла, цягнула да сябе. І насустрач ёй імкнулася істота Валі.

Побач, плячо ў плячо бегла медычка. Гэта злавала і распальвала ўпартасць. І толькі на апошнім метры Валя з закінутай назад галавою грудзьмі кінулася на стужку. Задаволеная, яна пранесла яе крыху і потым, быццам гэта ёй было цяжка, скінула з сябе на зямлю.

Ахопленая ўзбуджанасцю, якая бадай ці не пабольшала, Валя пайшла ўздоўж броўкі, слухаючы, як бушуе стадыён. Калі яна вярталася, усё яшчэ ўнікаючы пазіраць на трыбуны, падышла задыханая медычка і нязграбна паціснула руку. Затым падбегла Ала Понтус. Яна шчыра абняла Валю і, стаўшы на пальчыкі, горача пацалавала ў лоб. Пазіраючы цераз валіна плячо на медычку, якая ішла да грудкі адзежы, кінутай на траву каля футбольных варот, Понтус зашаптала:

— Шанцуе-ж табе, Валечка... Ты, мабыць, і не заўважыла? А ўсе заўважылі. Яна-ж думала, што прыйшла першай. Уяўляеш!.. Узмахнула рукамі, а стужкі няма... Вось смех!..

2

Хораша быць пераможцам!

Хораша таму, што цябе абавязкова пачынае ведаць крыху больш людзей, чым ведала дагэтуль. Хораша, бо людзі глядзяць на цябе з

большай цікаўнасцю і большай павагаю, і ты маеш права і на гэтую цікаўнасць, і на гэтую павагу. Але... Але бадай найлепшае тут у тым, што пачынаеш разумець: і свет, і ты сам сталі крыху іншымі. Паміж табою і светам — добрая згода. І якой-бы малой ні была справа, дзе ты перамог, яна з гэтай хвіліны стане для цябе справай натхнення.

Так, пераможцам быць хораша. Нават вельмі!

Здаецца, песня лунае недзе побач з табою, а навокал столькі святла і сонца, што хочацца жмурыцца і ўсміхацца. І хоць ад стомленасці, ад перажытага кружыцца ў галаве, ты нясеш у сабе гордую радасць. Яна акрыляе цябе. Вялікі і радасны паўстае перад табою свет. Ён цяпер асабліва дарагі і блізкі табе, як блізкі і дарагі яму ты — пераможца. Ты востра адчуваеш яго красу, яго веліч. А ён быццам рады ўсцешыць цябе і сваім харастввом і сваёю веліччу.

Хораша!..

Прыціскаючы, як скарб, да грудзей кветкі і маленькі чамаданчык, Валя ўлілася ў людскі паток. Ён адразу паланіў яе і панёс да выхаду з стадыёна. І толькі на вуліцы, падзяліўшыся на тры ручаіны і раптам аслабеўшы, даў Валі магчымасць ісці вольна. Яна пайшла, куды ішла большасць — па Камсамольскім бульвары, хоць так дадому было крыху далей.

На бульвары цвілі ліпы. Залацістая квецень усыпала іх кроны. Яна рабіла ліпы падобнымі да полымя свечак. Здавалася, што ад ліп праменіць чыстае, трапяткое святло, і дрэвы абкружаны зззяннем. Іх усяго год як прывезлі з далёкай пушчы, і першае лета яны цвілі бледным, ледзь не блакітным цветам. Кветкі хутка, раней часу, ападалі, і тое, што можна назваць жыццёвай сілай, як-бы стаілася ў дрэвах і пачало засынаць. І пакуль са сталоў не знялі ахоўных абмотак і драцяных пастромкаў, якімі ліпы для ўстойлівасці былі прымацаваны да зямлі, не зусім верылася, што яны прыжывуць і да іх можа вярнуцца звычайная, поўная сілы краса... І вось — за квеценню амаль не відаць лісця! Ліпы цвітуць пышна, святочна.

Гэтую змену Валя, безумоўна, заўважала і раней, але заўважала як такое, што змяняецца павольна, на вачах і таму не пакідае ўражання. Цяпер-жа, быццам Валя даўно не бачыла ні гэтага бульвара, ні гэтых ліп, яна спынілася.

Міма, перакідваючыся жартамі, спяшаліся людзі. Налягаючы на калясачку, у якой спала дзіця, пратэпала старая. Некуды пачалі знікаць хлапчукі са сваімі самакатамі і веласіпедамі на трох колах. Апусцелі лавачкі.

Нечакана наляцеў вецер, свежы, дужы. Ліпы радасна затрапяталі, зрабіліся стракатымі, і лісце закрыла цвет.

Нібы жадаючы паглядзець на гэты вецер, Валя мімвольна азірнулася. Ля ўваходу на бульвар яна ўбачыла Васіля Пятровіча, архітэктара. Ён стаяў адзін і, відаць, некага чакаў, але, таксама заўважыўшы Валю, хутка накіраваўся да яе, па звычцы шырока махаючы партфелем і стомлена ўсміхаючыся.

— Вы зусім як прыезджая, — падыходзячы, сказаў ён і прывітаўся, беражліва ўзяўшы Валю вышэй локця за руку.

— Чаму прыезджая? — не зразумела Валя, але, зірнуўшы на свой чамаданчык у правай руцэ і кветкі, якія яна няўмела абдымала левай, здагадалася, і шэрыя праменістыя вочы яе засвяціліся. У сініх спартыўных штанах, белай блузцы, з чамаданчыкам і кветкамі яна сапраўды выглядала, быццам вось толькі што выйшла з вагона на перон і нехта з сяброў, вітаючы, падарыў ёй букет кветак.

— Вы дамоў? — зарадаваўся Васіль Пятровіч.

— Ага.

— Дык пайшлі тады... І хутчэй. — Ён партфелем і кіўком галавы паказаў на навальнічную хмару.

Ідучы побач, Васіль Пятровіч, як і заўсёды, загаварыў пра свае справы:

— Сядзеў, Валя, над дакладной. Думаў, даводзіў. І паверыце, дзіўна атрымліваецца. Адны стаяць на варце сродкаў — рубля. Другія на варце часу — тэмпаў. У іх усё канкрэтна і ясна. Гэта можна і трэба, а гэтага нельга і не трэба. Гэта дае эканомію і працуе на тэмпы, і яго варта падтрымаць. А гэта вядзе да лішніх выдаткаў і тармозіць справу, і яго неабходна адкінуць. А нам вось даводзіцца ахоўваць такую няпэўную рэч, як прыгажосць.

— Чаму няпэўную? — не асабліва задумваючыся над словамі Васіля Пятровіча, запярэчыла Валя. І, не ўтрымаўшыся, дакранулася тварам да вільготных яшчэ кветак. Ад іх пахла зямлёю, цяпліцаю, і Валя прагна, з асалодаю ўдыхнула гэты прэсны пах.

Яны выйшлі на Савецкі праспект.

Ён ужо вырысоўваўся і ляжаў шырокі, прасты, як аўтастрада. Праўда, забудаваным быў толькі адзін бок квартала, і асфальтаваная паласа абрывалася недзе каля Цэнтральнай плошчы, дзе жаўцелі груды вывернутай зямлі. Але праспект ужо існаваў, жыў. На супрацьлеглым баку і суседніх кварталах раслі цагляныя гмахі. Адзін апранаўся ў рыштаванні. Другі ледзь узнімаўся над будаўнічым парканам, аблееным аб'явамі і тэатральнымі афішамі. Трэці ўгадваўся па ўважліва схіленым кране.

Недзе паблізу працаваў экскаватар. Па праспекце разлягалася няроўнае — то басавітае, то лагоднае — вуркатанне яго матора і характэрны, нібы нешта забурваецца, грукат яго каўша. Калі экскаватар сціхаў, чулася груднае вуркатанне бетонамяшалкі.

Важна праплыў крэмавы, з чырвонай паласою аўтобус. Імклівa, быццам даганяючы адна другую, пранесліся дзве «пабеды».

І неабдымнае, як свет, шчасце зноў ахапіла Валю.

— Дык вазьміце-ж ад мяне хоць чамаданчык, — папрасіла яна.

Па праспекце набліжалася ўжо сцяна лівня. Была яна светлаблакітная і шчыльная. Перад ёю, па тратуарах, беглі прахожыя.

Васіль Пятровіч узяў ад Валі чамаданчык і першы пабег да будаўнічага паркана пад казырок.

Сцяна лівня пранеслася міма. І адразу, на хвіліну, усё запоўнілася звонкім, вясёлым гоманам дажджу, бульканнем і цурчаннем. Затым раптам, гэтак-жа, як і набеглі, гоман, бульканне сціхлі. Усё стала ранейшым. Толькі паўз абочыны беглі хвалістыя ручаі ды праспект, паблісквaючы, зрабіўся падобным да шырокай воднай гладзі, у якой адлюстраваліся гмахі дамоў і парканы. Машыны цяпер прабягалі з вясёлым шуршаннем, і з-пад іх шын вырываліся імклівыя срабрыстыя пырскі.

Валя і Васіль Пятровіч наважыліся былі ўжо ісці, як да іх падбег Кастусь Алешка. Без шапкі, у прамоклай кашулі, у картовых штанах, што прыліпалі да ног, ён пераможна зарагатаў і пляснуў сябе па мокрых штанах.

— Во гэта здорава! — гукнуў ён, зусім ігнаруючы прысутнасць Васіля Пятровіча. — Ты з стадыёна? У мяне аж цэлых паўтары гадзіны... Пайшлі!

Мокрыя валасы яго кучаравіліся больш звычайнага. На ілбе і шчоках дрыжалі кроплі вады. Ён змахнуў іх далонню, палез у кішэню па хусцінку, не знайшоў яе і выцер твар рукавом кашулі.

— Ты хоць пазнаёмся, — заўважыла Валя, ніякавата беручы ад Васіля Пятровіча чамаданчык і позіркам просячы прабачэння. — Гэта Юркевіч...

Алешка нядбала кінуў сваё прозвішча, абы-



якава глянуў на Васіля Пятровіча і ўзяў Валю пад руку.

— Мне трэба яшчэ перакусіць, — сказаў ён. — Пайшлі, Валя! На сваю Понтусаўку ўжо не траплю, ха-ха!..

Валя кіўнула Васілю Пятровічу галавою і, пераступаючы цераз слюдзяністыя плынькі вады, што сцякалі з тратуара, пайшла з Алешкам. Той крочыў амаль подбегам, і Валя ніяк не магла патрапіць яму ў нагу.

— Ды цішэй ты, — упікнула яна, — я стамілася.

Ён не звярнуў увагі на яе словы. І ў Валі, якая чакала, што Кастусь, як толькі яны застануцца адны, абавязкова запытаецца пра спаборніцтва, пра яе поспехі, варухнулася крыўда.

— Ты сёння зусім дзіўны, — сказала яна. — Што з табой?

— Ідзі яно ўсё... Жыць, Валя, хочацца...

— А хіба ты не жывеш?

— І жыў-бы, і жыць можна, ды наваліліся злыя людзі і не даюць... — насмешліва ўстрасянуў галавою Алешка, ад чаго мокрыя кудзеркі на галаве ўзварухнуліся, як званочкі.

Валі падабалася гэтая кастусёва прывычка ўстрахваць галавою, падабалася гэтае пакалыхванне зухаватых кудзеркаў.

— Не, сур'ёзна? — спыталася яна, амаль забываючыся на сваю крыўду і мацней прыціскаючы яго руку да сябе.

— Абрыдла, Валя... І дзённыя заданні, і графікі, і рапартычкі. Ідзі яно к богу! Кожны дзень адно і тое-ж... А як было? Мора шырокае! Адна мая кішанёвая артылерыя чаго была варта. Памятаеш?.. А цяпер і хлопцы нават быццам пагаслі...

— А я?

— Ты добра знаёма з гэтым чыстаплюем? — замест адказу спытаў Алешка.

Валя паціснула плячыма і азірнулася назад.

Хмара з грымотамі і бліскавіцамі адыходзіла на поўнач. Косыя пасмы дажджу падалі з яе недзе ўжо на ўскраіну горада. За ёй цягнулася града раскудлачаных хмарак і белых воблачкаў. Неба ачышчалася і, як гэта бывае пасля навальніцы, рабілася зіхотным, вясеннім, быццам вымытым.

З асалодаю ўдыхнуўшы свежае паветра, Валя шчасліва засмяялася:

— Не будзь, Косця, дурнем... Лепш спытай, хто сёння заваяваў перамогу... — а падышоўшы да інтэрната, напомніла: — Глядзі, не пазніся на свята. Я буду чакаць цябе каля вялікай эстрады а восьмай...



3

Валя ўбегла ў інтэрнат. Дзяўчат з яе пакоя яшчэ не было. У шчыліне паміж плінтусам і масніцаю яна знайшла ключ. Прычыніўшы за сабою дзверы, Валя, быццам у знямозе, прыпала тварам да кветак і прастаяла так з хвіліну, адчуваючы, як радасна і трывожна замірае сэрца.

Пакойчык мала чым нагадваў той, у які Валя ўвайшла чатыры гады назад. Апрача яе ложка, стаялі яшчэ два — акуратна засцеленыя капамі, з беласнежнымі падушкамі, паставаўленымі на кант. На вокнах бялелі прамярэжаныя фіранкі. Над сталом звісаў адмысловы самаробны абажур. Пад ім, на стале, стаялі вазачка з кавылём, бюстык Маякоўскага, люстэрка, стосікам ляжалі кнігі. Усё было абжыта, і на ўсім былі сляды клапатлівых дзявочых рук. З ранейшага засталіся толькі пілотка, біклажка ды фінка ў чахле, што на цвіку віселі над узгалоўем валінага ложка. Ды яшчэ, бадай, — сонца, якое, як і тады, шчодра лілося ў вокны.

Не, ранейшым засталося і адчуванне, што Валя стаіць на парозе нечага новага і вельмі-вельмі важнага.

Такое адчуванне Валі даводзілася перажываць не раз. З ім яна пасля смерці маці пакідала родны гарадок і ехала ў лес да лясных мсціўцаў. Калёсы, гружаныя мяхамі мукі, якую ўпотай змалоў для партызан дзядзька Рыгор, гойдаліся на калдобінах. Ад мяхоў ішоў парны пах свежазмолатага жыта, і, удыхаючы гэты пах, душачыся горам, Валя адчувала — пачынаецца нешта зусім новае і вельмі важнае ў яе жыцці. Так было і тады, калі Зімчук накіраваў Валю ў занявolены Мінск. Ёй не верылася, што яна можа загінуць, бо навокал былі ранейшыя людзі, тая-ж, што і раней, зямля, тое-ж неба. Але калі Валя пераходзіла шашу на краі партызанскай зоны, думка, што яна пераступае і нейкі рубеж, скаланула яе. А калі яна здавала ў ЦК камсамольскія справы брыгады? Хіба яна не развіталася з мінулым? Не адчувала ўсёй істотаю, што заўтрашні дзень будзе зусім, зусім іншым?

Да работы Валя пачала рыхтавацца даўно — можа з першага дня вучобы ва ўніверсітэце. Пра яе яна памятала і сядаючы за канспекты, і шукаючы дадатковую літаратуру, рэкамендаваную выкладчыкам, і здаючы залікі. Вучоба ніколі не была для Валі толькі заняткам дня або нечым накшталт спорту. І ўсё-такі, здаючы апошні экзамен — па рускай літаратуры, — яна амаль зжахнулася, што гэта яе апошні універсітэцкі экзамен. Старшыня дзяржаўнай камісіі — прафесар з валасатымі рукамі і доўгім, быццам здзіўленым тварам, на якім чарнелі пучкі брывей, — чамусьці прыдзірліва і ўпарта апытваў Валю і адпусціў яе толькі тады, калі тая грунтоўна расказала пра згубленыя дзесяты раздзел «Еўгенія Анегіна» і вобраз чорта ў ранніх апавяданнях Максіма Горкага. А потым, даручыўшы весці экзамены намесніку, выйшаў услед за Валяй у калідор і ўсхваляваны пачаў даводзіць, у чым яна памыляецца. Але — гэта якраз і зжахнула Валю — ён не рабіў заўваг як настаўнік, а спрачаўся, пярэчыў як чалавек, які, не згаджаючыся з табою, паважае тваю думку.

Студэнты ёсць студэнты. І нават самыя здольныя з іх застаюцца ў адносінах да сваіх выкладчыкаў вучнямі. Памылка студэнта звычайна лічыцца вучнёўскай памылкаю. І мала хто глядзіць на яе, як на вынік пошукаў, хоць яна і вынікала-б з перакананняў. Размова з прафесарам у калідоры паказала Валі, што месца яе цяпер сярод людзей раптам змянілася. Яна атрымала новыя правы, новыя абавязкі. Слова яе стала больш важкім, а сама яна больш патрэбнай жыццю. Стоячы ля парога і пазіраючы на пакойчык, Валя падумала і аб тым, што, апрача ўсяго, зменяцца і ўмовы жыцця, зменіцца ўсё-ўсё. І што ўдзельнічала яна ў спаборніцтвах можа па інерцыі. І радавалася сваёй перамозе чыста па-студэнцку, што цяпер і радасці і смутак стануць іншымі. І трэба развітвацца і з гэтаю дарагой парой.

Валя раней мала задумвалася над сваімі адносінамі да Алешкі. Цяпер-жа нельга было пераступіць парог у новае жыццё, не вырашыўшы і гэтага. Валя палажыла кветкі на стол і, нечакана засумаваўшы, села на свой ложак.

Што рабіць?

Аднойчы, яшчэ ў мінулым годзе, у парку пад рэдкімі соснамі з дзіўнымі, як на кітайскіх малюнках, кронамі Алешка ўпікнуў, што яна не кахае ўжо яго, і Валя абурылася. За каго ён лічыць яе?.. Праўда, Валя ніколі не цалавала яго сама. Але хіба дазволіла-б яна, калі-б не было кахання, цалаваць сябе? Хіба жадала-б спатканняў з ім і яго блізкасці? Ды гэта не прымірыла іх. Яны селі пад аднэй з сосен, і Алешка, няўрымслівы, зухаваты Алешка, закрыўшы рукамі вочы, заплакаў. Валя, шкадуючы яго, прытуліла кучаравую алешкаву галаву да сябе і некалькі разоў далонню правяла па яго валасах. Усхліпваючы і не расплюшчваючы вачэй, Алешка так і заснуў на валіных руках. Навокал не было ні душы. Валі стала страшна. Палохала, што можа хто-небудзь прайсці міма, убачыць. А галоўнае, агортваў страх ад адзіноты, ад ляснога шуму сосен — нейкі нутраны, амаль містычны страх. Пазіраючы на пабляднелы ў сне алешкаў твар, Валя аж сціснулася: на руках ляжала галава бадай што чужога чалавека.

Праз некаторы час ён расплюшчыў вочы і доўга няўцямна глядзеў на Валю. Затым узняўся і пацягнуўся, каб абняць яе. Але яна адвяла яго рукі і ўстала.

— Хадзем адсюль, — папрасіла яна.

Ён зазлаваў. Шкадуючы яго злосць, Валя зноў апусцілася побач. Над галавою шумелі сосны. Праз іх шум Валя мала разумела, што казаў ёй Алешка, у чым дакараў яе і чаго дамагаўся.

— Ну, добра, — сказала яна нарэшце, каб супакоіць яго. — Няхай, Кастусь, гэтая размова будзе пазней... Калі скончу навуку. Згода?..

І вось надышоў ёю-ж самой прызначаны час.

Што рабіць?

Адказу ў сабе Валя не знаходзіла. Не таму, што нешта палохала яе або ёй нехапала адва-

гі. Не! У Валі проста жыло перакананне, што рабіць такі крок трэба толькі тады, калі не маеш сіл не зрабіць яго. Калі побач з табой стане твой нявольнік і гаспадар. Калі ты ў здзіўленні анямееш ад шчасця, якое чакае цябе. Калі ў табе будзе сапраўды бязмежная вера... Дый істота Валі была поўная цяпер іншых парыванняў. Яна трызніла работаю, прагла дзейнасці. Вельмі многа страціла яна ў вайне, надта блізка хадзіла ад смерці. Вельмі нялёгкімі былі для яе студэнцкія гады, калі адначасова прыходзілася вучыцца, выгружаць дровы з чыгуначных вагонаў і мураваць універсітэцкія карпусы. Вельмі адказным быў пост, на які паставіў час валіна пакаленне, каб Валя не імкнулася да сапраўднай работы, якой у марах прысвяціла сябе. «Працаваць, цяпер толькі працаваць! Быць вартай свайго новага месца ў жыцці, — думала яна, гасячы хістанні і смутак. — Астатняе прыдзе як дадатак...»

Узяўшы слоік, Валя схадзіла на кухню, наліла ў яго вады і паставіла кветкі. У слоіку букет стаў пышнейшым і больш маляўнічым. Валі нават здалося, што кветкі ўстрапянуліся і паярчэлі, і яна ведала ўжо, што, уваходзячы ў пакой, кожны раз будзе глядзець на кветкі, як на нечаканасць. Раз-по-раз пазіраючы на іх, яна пераапранулася, замкнула пакойчык і з прыемным халадком у грудзях пабегла да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку.

Да прыпынку падышлі два аўтобусы. Валя свабодна ўскочыла ў другі і нават знайшла месца ля акна. Яна любіла гэтае месца. Аўтобус мякка пагойдваўся. Вуліца бегла, як на кіностужцы, і ўсё ўспрымалася вастрэй, і кожны раз заўважалася што-небудзь новае.

Горад будаваўся, і праязджаючы па Совецкай вуліцы, можна было назіраць увесь будаўнічы паток. Тут разбіралі старую брусчатку, здымалі трамвайныя рэйкі, выкопвалі шпалы (трамвайная лінія пераносілася на кальцавую магістраль). Там капалі катлаваны для падземнай гаспадаркі, і на жоўтым насыпе чарнелі трубы, стаялі вялізныя каткі з кабелем. Крыху далей бульдозеры ўжо раўнавалі новую трасу вуліцы — шырокую, саракавасьміметровую, і грузавікі-самазвалы адзін за другім прымалі з каўшоў экскаватараў лішнюю тут зямлю. На спуску да Свіслачы выпрастаная вуліца-праспект павінна была прайсці значна правей ранейшай, і палову яе перагараджваў уцалелы белакаменны будынак колішняга педагагічнага тэхнікума. Далей праспект узнімалі на некалькі метраў, і тыя-ж нястомныя самазвалы падвозілі і падвозілі шчэбень, зямлю, цагляныя глыбы ад узарваных руін. Новы мост праз рэчку будаваць не пачыналі, але земляныя работы вяліся і на другім беразе. Будаўнічыя парканы апаясвалі цэлыя кварталы. Там і тут узнімаліся чырвоныя гмахі. І ўжо нават не верылася, што пачыналі з расчысткі тратуараў і праязной часткі вуліцы.



Валя выйшла з аўтобуса каля Дома друку. Азіраючыся на бакі, каб на выпадак першай заўважыць знаёмага, яна перабегла вуліцу і ў нерашучасці спынілася каля пад'езда. У Доме друку Валя раней таксама бывала. Тут праходзіла практыку. Але зараз ёй усё здалося незвычайным і значным, нават няззручныя вузкія дзверы і мноства шыльд з назвамі газет і часопісаў, намаляваных тым-жа шрыфтам, што быў на гэтых газетах і часопісах. У дзверы і з дзвярэй бясконца ўваходзілі і выходзілі людзі. Валя прапусціла некалькі чалавек і нясмела ўвайшла ў цёмны вестыбюль. Па шырокай лесвіцы ўзнялася на другі паверх і, як па лесе, пайшла па доўгім-доўгім калідоры, у канцы якога свяцілася адзінае, затое на ўсю шырыню калідора, акно. Справа і злева выстраіліся дзверы з таблічкамі: «Аддзел пісьмаў», «Аддзел інфармацыі», «Аддзел культуры і быту», «Прамысловы аддзел». У адным з іх Валі трэба будзе працаваць. «Добра, каб у прамысловым,—з заміраннем падумала Валя, — пісала-б тады пра горад, пра будоўлі». Па калідоры снавалі работнікі рэдакцыі, і Валя, непрыкметна, з павагаю разглядаючы іх, імкнулася ўгадаць, з кім яна пазней пасябруе. На яе не звярталі ўвагі. Нікому было няўцям, што гэтая дзяўчына, у простай, з густам пашытай сукенцы не ўтрымалася і прыйшла сюды, каб паглядзець, дзе неўзабаве ёй давядзецца працаваць.

4

Пасля ўрачыстай часткі і самадзейнага канцэрта ў зялёным тэатры яны пайшлі па ўзбярэжнай алеі. Тут было менш людзей. Ад рэчкі павявала свежасцю. На супрацьлеглым беразе ярка свяціліся вокны электрастанцыі. Святло, што лілося з іх, падала на чорную вадзяную гладзь і дрыжала на ёй зіхатлівымі палосамі. Рэчку тут перагараджвала плаціна, і шум падаючай вады панаваў над усім.

Валя ўся жыла яшчэ чутым. Прадстаўнік Міністэрства асветы і сакратар гаркома комсамола горача віталі студэнтаў з паспяховым заканчэннем навучальнага года. Рэктар гаварыў аб клопатах, якімі абкружае студэнтаў народ і дзяржава, і заклікаў выпускнікоў — новы атрад спецыялістаў, што заўтра рушыць у жыццё, — быць вартымі гэтых клопатаў. І з кожнага выступлення што-небудзь западала ў валіну душу. Потым спяваў універсітэцкі хор, выступалі дэкламатары, музыкі. І Валі, нягледзячы на тое, якую песню выконваў хор, вясёлы або журботны матыў чуўся з эстрады, хацелася плакаць.

Алешка-ж быў пануры і быццам пакрыўджаны. Ён кпіў з прамоў, з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, рагатаў зусім не там, дзе было смешна, або сядзеў насуплены і нездаволены. Было відаць, што ён гатовы на нешта і не хавае гэтага. Наадварот, нават жадае, каб Валя здагадалася аб яго рашучасці. Крочучы поруч, Алешка маўчаў і не браў Валю пад руку. А яна, знаходзячыся ў плыні сваіх думак, не заўважала ні гэтай дэманстрацыі, ні яго панурай рашучасці. Алея была з маладых таполяў. Іх галінкі, сыходзячыся над галавою, спускаліся нізка. Валя падскоквала, адрывала ліст, каштавала яго на смак і таксама маўчала. Багаты ўражаннямі дзень быццам ішоў за ёй следам, і памяць яе ўзнаўляла то адзін, то другі эпізод.

Дайшоўшы да канца алеі, якая ўлівалася ў галоўную шырокую алею, яны не вярнуліся назад, а далучыліся да людскога патоку і пайшлі пад матавымі ліхтарамі, што звісалі з срабрыстых мачтаў, як важкія спелыя плады на схіленых пад іх цяжарам галінах. У парку сёння былі пераважна студэнты. Таму сустракалася многа знаёмых. Яны віталіся з Валяй, з Алешкам, кідалі жарты. Каля пакоя смеху падбегла Ала Понтус. Яна паціснула руку Алешку, схапіла Валю за стан і закружыла.

— Як весела, Валечка! Ах-ах, як весела! — завохкала яна, страляючы баламутным зіркам у Алешку. — Нарэшце мы вольныя, і не трэба баяцца ні дэкана, ні старшыні прафкома... Адно гэта — ужо шчасце. Праўда?

— Ты, здаецца, у Віцебск? — не адказала Валя, вызваляючыся з яе абдымкаў.

— Не... Тата дапамог застацца ў Мінску... Ты рада? Я вельмі. Будзем сустракацца. Праўда?

Яна заўважыла высокага, у белых штанах і светласінім доўгім пінжаку хлопца, гукнула яго, какетліва памахала рукой Алешку з Валяй і напралом, штурхаючы сустрэчных, памкнулася ў той бок.

Алешка купіў «эскімо» і, жуючы яго, як хлеб, павесялеў.

Пастаялі каля гушкалак. Шэсць лодак узляталі ўразнабой. З іх неслася галёканне хлапцоў, смех і віск дзяўчат. Лодкі ўзляталі на-

---

Ніл ГІЛЕВІЧ

## НАСЫЛКА

Прыйшла яна вельмі дарэчы,
Як зналі бацькі ўсёадно:
Стыпендыя выйшла дарэшты,
А новай яшчэ не чутно.

Дыхнула са скрыначкі вёскай.
І тут мы, каб лепшы быў лад,
У госці па звычцы сяброўскай
Завем аднакурсніц-дзяўчат.

Спрабуем каўбасы з-пад Слуцку
І робім заўвагі свае,
Жартуем, што ўсё ў нас па-людску,
Вось толькі віна нестае...

Ці думала маці ў раёне,
Складаючы масла ў глячок,
Што будуць удзячны ёй сёння
Аж восем сыноў і дачок!

Як самую дзіўную казку,
Нам дзён не забыць дарагіх,
Калі мы бацькоўскую ласку
Дзялілі па-брацку на ўсіх.

роўні з перакладзінаю. Дзяўчаты няшчыра пратэставалі і сарамліва, але задаволена прысядалі. Наглядчык раз за разам пакрыкваў і тармазіў. Навокал разлягаўся глухі і басавіты стук дрэва аб дрэва. Тут-жа вялізная страла ўзнімала прывязаных да сядзення аматараў у зорнае неба, апускала ўніз галавою да зямлі і зноў імчала ўгару. Некаторыя з спрактыкаваных нават не трымаліся, а, расставіўшы ўбакі рукі, лёталі, як ластаўкі.

Ва ўсім гэтым было не шмат дасціпнага, але Валі таксама стала добра, лёгка. Лёгкасць яна адчула нават у грудзях, у целе.

— Пагушкаемся! — прапанавала яна.

Гушкаючыся, Валя ўсё больш і больш пранікалася гэтым адчуваннем лёгкасці і нейкай акрыленасці. А калі вылезла з лодкі і сышла з памоста, ад задуменнасці не засталося і следу. Кружылася ў галаве, боязна было заплюшчыць вочы, сэрца білася штуршкамі — так! так! так! Алешка, не пытаючыся згоды, пацягнуў Валю на танцавальную пляцоўку. Але як толькі яны падышлі да яе, у неба шугануў феерверк. Музыка і шарканне ног сціхлі. Россып featured вознакаляровых зорак — зялёных, жоўтых, чырвоных — павіс над вершалінамі дрэў. Зыркае дрыготкае святло заліло зямлю, людзей, дрэвы. Патрываўшы імгненне, зоркі пакаціліся ўніз, а насустрач ім узляцелі цені. Потым яшчэ і яшчэ. І гэтыя зорныя пошугі, і гэтыя ўзлёты цемры быццам узнімалі Валю.

Танцаваць пасля феерверкаў здалося недарэчным. Валя тузанула Алешку за рукаў, і яны паціху пабрылі жвірыстай сцежкаю па схіле ўзгорка, у бок ад галоўнай алеі.

Ноч выдалася нерухомая. Усё нібы застыла навокал. Толькі час-ад-часу наплывалі павевы цеплыні. Валя адчувала іх шчокамі, кісцямі рук, нагамі. Яны, здаецца, плылі з прасветлін або ішлі ад зямлі і дрэў. Душа ўбірала іх, прагла. Цягнула прытуліцца да цёмных ствалоў, ад якіх яны быццам ішлі, хацелася, не саромячыся, легчы на зямлю і блізка-блізка адчуць яе матчыну ласку. Агні ліхтароў, што мігцелі паміж дрэў, не даносілі сюды свайго святла. Пад кустамі і ў кронах дрэў стаіліся змрокі. І хоць ад танцавальнай пляцоўкі далятала музыка, ад гушкалак — глухія ўдары лодак аб дошкі-тармазы, а на Першамайскай вуліцы раз-по-раз звінеў трамвай, і музыка, і ўдары, і трамвайныя званкі здаваліся далёкімі і нетутэйшымі. Гэты куток парку жыў сваім — нерухомасцю і цішынёю.

— Я люблю, калі набягаюць такія плынькі, — сказала Валя, узнімаючы твар, каб не прапусціць цёплага павеву. — Вось дакранулася зноў... Вось зноў...

Алешка не запярэчыў, хоць усміхнуўся.

— Люблю вось такую сцішанасць... Або, наадварот, патоп, лівень, які збівае лісце.

— А я дык цябе, — рагатнуў Алешка. — І з табою згодзен нават у каўчэг, калі патоп той пачнецца. Згодзен з чыстымі і нячыстымі плаваць і абы куды плысці... Эх, Валя, Валя!..

— Эх, Кастусь, Кастусь...

Нечым добрым, ранейшым павеяла на іх ад гэтых слоў. Істоту казытнула ні то надзея, ні то трывога.

— Мне цябе, Валя, трэба. Цябе ўсю, — зашаптаў Алешка, — каб я заўсёды ведаў, што ты побач. Каб працягнуў руку і знайшоў цябе. Каб дакрануўся... Я ведаю, як пахнуць твая шыя, твае валасы... Я не магу без цябе. Мне патрэбна твая блізкасць, твая цеплыня!

Ён пацягнуўся да яе, але Валя адкінула галаву і крыху адхілілася. Падтрымліваючы яе за спіну, Алешка ўсё-ж дацягнуўся да валіных губ і быў прыпаў да іх. Пратэст, які скалануў яе, прымусіў закрыць ад яго губы далонню. Гэтак, змагаючыся, ён на ўсе грудзі дыхнуў на яе, і яго дыханне, як і дотык, абпалілі ёй твар. Валя выразна ўлавіла пах гарэлкі... Значыць, Кастусь выпіў перад тым, як ісці сюды, у парк! Ён ішоў да яе на спатканне выпіўшы! Чаму? Для чаго? Мабыць, каб прыглушыць нешта ў сабе і быць смялейшым. Мама родная!.. Гэта быў здзек і нечуваная абраза. Плечы Валі перасмыкнуліся. Яна ірванулася і пабегла. Збягаючы паміж рэдкіх сосен з узгорка, чуючы за сабою тупат алешкавых ног, ліхаманкава думала, куды ёй зараз бегчы. Куды?

А праз бязладдзе думак і пачуццяў прабівалася думка аб тым, што гэта, мусіць, яе другая перамога за сённяшні дзень.

# ДА ВЫШЫНЯЎ

**Нядаўна ў Мінску па ініцыятыве ЦК ЛКСМБ і Акадэміі навук БССР была склікана Рэспубліканская канферэнцыя маладых вучоных. У ёй прынялі ўдзел дзесяткі маладых прадстаўнікоў совецкай навукі — выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, супрацоўнікі навукова-даследчых інстытутаў, аспіранты, урачы, асістэнты, лабаранты. Маладыя даследчыкі і вучоныя расказалі аб навуковых праблемах у галіне народнай гаспадаркі, культуры, медыцыны, над вырашэннем якіх яны працуюць.**

**Ніжэй расказваецца аб рабоце некаторых маладых вучоных, аб тых здабытках і выніках, якіх яны дамагліся.**

У Беларускім політэхнічным інстытуце імя Сталіна на кафедры гідраўлікі працуе кандыдат тэхнічных навук Васіль Іванавіч Кузьмянкоў. Ён займаецца вывучэннем пытання прасторавага гідраўлічнага скачка. Пытанне гэтае мае немалое практычнае значэнне пры праектаванні гідратэхнічных збудаванняў. Важна пабудаваць, напрыклад, жалезабетонны мост на рацэ моцным, трывалым, вечным і разам з гэтым паменш выдаткаваць будаўнічых матэрыялаў. Дэталёвае вывучэнне пытання аб прасторавым гідраўлічным скачку важна і ў справе папярэджання размыву рэчышча.

На здымку: кандыдат тэхнічных навук В. І. Кузьмянкоў за работай на эксперыментальнай устаноўцы.

→



Сотні студэнтаў навучаюцца ў Мінскім педагагічным інстытуце імя Максіма Горкага. Заўтра яны паедуць у школы выкладчыкамі фізікі, хіміі, матэматыкі, прыродазнаўства, літаратуры і мовы. Але гэта заўтра. Сёння студэнтам трэба набірацца ведаў, авалодваць асновамі навук. Вялікая і пачэсная роля ў справе падрыхтоўкі маладых спецыялістаў належыць прафесарам, дацэнтам, выкладчыкам. Яны ўзбройваюць будучых спецыялістаў глыбокімі ведамі, прывучаюць да навукова-даследчай работы, прывіваюць любоў да навукі.

Заслужаным аўтарытэтам у педагагічным інстытуце карыстаецца малады вучоны, кандыдат філалагічных навук Міхаіл Арсеньевіч Лазарук. Летась Міхаіл Лазарук абараніў кандыдацкую дысертацыю аб творчасці беларускага паэта Пімена Панчанкі, а сёлета ён чытае лекцыйны курс, вядзе навукова-даследчую работу ў інстытуце.

На здымку: кандыдат філалагічных навук М. А. Лазарук чытае лекцыю.

↓



# НАВУКІ



↑

Тарфяныя масівы ў нашай рэспубліцы займаюць велізарныя плошчы. Торф — каштоўнае і таннае паліва. І не дзіўна таму, што многія беларускія вучоныя займаюцца праблемамі торфу. На канферэнцыі маладых вучоных супрацоўнік Інстытута энергетыкі Акадэміі навук БССР Лідзія Міхайлаўна Нікіціна прачытала цікавы даклад аб даследаванні працэсаў сушкі фрэзернага торфу ў пнеўма-паравой сушылцы. Сушка торфу ў такой сушылцы, як даказана эксперыментальнымі даследаваннямі, з'яўляецца надзвычай карысным і танным спосабам сушкі.

На здымку: кандыдат тэхнічных навук Л. М. Нікіціна за вызначэннем фракцыйнага складу фрэзернага торфу.



→

Радыёактыўныя рэчывы, або, як яшчэ іх называюць, «малыя формы» атамнай энергіі, знаходзяць усё большае прымяненне ў медыцыне. З поспехам прымяняецца, напрыклад, радыёактыўны фосфар для лячэння захворванняў скуры. Аб вопыце прымянення гэтых рэчываў расказала ў сваім дакладзе асістэнт Беларускага навукова-даследчага скурна-венерычнага інстытута Вера Філіпаўна Гілеўская.

На здымку: урач В. Ф. Гілеўская.

Аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна Васіль Гапоненка займаецца вывучэннем кругавароту мінеральных угнаенняў у сажалках. Малады даследчык прыйшоў да вываду, што фосфарныя ўгнаенні, якія ўжываюцца для гэтай справы, не выключаюць патрэбнасці і ў азотных угнаеннях. Для эксперыментальнага вывучэння пастаўленага пытання малады даследчык прымяніў мечаныя радыёактыўныя атамы, дабіўшыся пры гэтым добрых вынікаў.

На здымку: аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта В. І. Гапоненка.

↓



←

Першыя крокі ў галіне навукі студэнты робяць яшчэ ў сценах навучальных устаноў. Курсавыя і, асабліва, дыпломныя работы — гэта ўжо самастойныя студэнцкія даследаванні.

Большасць студэнтаў факультэта механізацыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі прысвяцілі свае дыпломныя праекты пытанням палепшання, удасканалення сельскагаспадарчых машын. Студэнт пятага курса камсамолец Леанід Бязрукі канструіруе прыстасаванне для безадвальнага ворыва плугам «П-3-30П». Гэтая работа з'явіцца яго дыпломным праектам.

На здымку: старшы выкладчык кафедры механізацыі, кандыдат сельскагаспадарчых навук Павел Іванавіч Ходыраў (злева) кансультуе Леаніда Бязрукага.

Калектыў Лагойскай раённай бальніцы аказвае хворым усялякую тэрміновую хірургічную дапамогу. Грамадзянін Кохан, які жыве за 15 кілометраў ад Лагойска, захварэў у 5 гадзін раніцы прабадзеннем язвы страўніка. У 7 гадзін 35 мінут ён ужо быў у раённай бальніцы, а неўзабаве яму пачалі рабіць аперацыю, якая закончылася паспяхова. У мінулым годзе калектыў бальніцы аказаў тэрміновую хірургічную дапамогу ў 119 выпадках цяжкіх захворванняў.

Аб вопыце арганізацыі неадкладнай хірургічнай дапамогі расказалі на канферэнцыі маладых вучоных урачы Лагойскай бальніцы Ф. М. Жмудзікаў і А. П. Крэйдзіч.

На здымку: (злева направа) хірург Ф. Жмудзікаў, медыцынская сястра А. Рапапорт і загадчык хірургічнага аддзялення А. Крэйдзіч за аперацыяй.

↓



# НА ФЕРМУ ПРЫЙШОЎ ВЕТФЕЛЬЧАР

**Н. ПЯТНІЦКІ**

Новая работа пачалася з непрыемнасцей. Перш за ўсё, у Анатоля выклікаў абурэнне ветэрынарны пункт — цесны пакойчык, палову якога займалі печ і вялізная шафа.

Былы ветэрынарны фельчар, пажылы невысокага росту мужчына з маленькім маршчыністым тварам, сустрэў Анатоля не зусім ветла.

— Справы прымаць? — з калючай усмешкай запытаў ён і падбегам затрухаў да шафы. — Калі ласка.

Анатоль пайшоў следам і праз яго плячо зазірнуў у расчыненыя дзверцы. Паліцы былі пустыя, толькі на адной ляжаў скальпель, нажніцы ды медны купарос, ледзь прыкрыты марляй.

— І ўсё? — расчаравана спытаў Анатоль Мяльніцкі.

— Усё, — ён спыніўся насупраць Анатоля, смешна надзьмуў шчокі, хацеў яшчэ нешта сказаць, але, відаць, перадумаў і моўчкі выйшаў з пакоя.

Адзін за другім пабеглі дні. Ветэрынарнаму пункту былі выдзелены грошы на набыццё інструментаў, медыкаментаў.

Але добры настрой, выкліканы ўдалым пачаткам, сапсаваўся, калі Анатоль пабываў у трэцяй брыгадзе. У свінарніку было цесна, брудна, не было падлогі. Без гумавых ботаў і не зойдзеш туды. Зрабіў заўвагу брыгадзіру, а той рукой махнуў — не мой гэта клопат, няхай дбае загадчык фермы. Зноў трэба было ісці да старшыні. Дамовіліся назначыць свінаркамі лепшых жанчын, зрабіць рамонт памяшканняў.

На тое, каб пабываць на ўсіх фермах, Мяльніцкаму спатрэбілася некалькі дзён. Калгас вялікі — ад цэнтральнай сядзібы да далёкіх брыгад больш за дзесяць кіламетраў.

Ціхім снежаньскім ранкам Анатоль вяртаўся дадому. Марозік пашчыпваў шчокі, нос, вушы. Сонца, праўда, свяціла ярка-ярка, але праменні яго былі халодныя. Навакол, як акінуць вокам, бялее снег. Ён аж сляпіў вочы.

Лёгка і радасна чалавеку працаваць, калі ён выразна бачыць перад сабою вялікую мэту. Для Мяльніцкага яна заключалася ў тым, каб павысіць прадукцыйнасць жывёлы ў калгасе. Яму давялося нямала паваяваць у праўленні, з загадчыкамі фермаў, пакуль ён, нарэшце, дабіўся, што абавязковым стала чатыры разы на дзень карміць парасных свіней, што цельным каровам павысілі рацыён і пачалі ставіць іх у асобныя станкі.

Многа працы і абавязкаў у ветэрынарнага фельчара. Вольнага часу ў Анатоля амаль не заставалася. І тым не менш, калі ў студзені на комсамольскім сходзе назвалі яго кандыдатуру на сакратара комсамольскай арганізацыі, Мяльніцкі нават і не падумаў адмаўляцца. Ён ведаў, што работы прыбавіцца. Але гэта не палохала Анатоля. Яго нават радавала, што цяпер ён бадай лепш зможа прыцягнуць моладзь да барацьбы за ўздым жывёлагадоўлі. Ён не памыліўся.

Ішло пасяджэнне праўлення. Як звычайна, на ім прысутнічаў і Мяльніцкі. Ён уважліва слухаў брыгадзіраў і нешта занатоўваў у блакнот, рыхтуючыся, відаць, выступіць. Але на гэты раз яму выступіць не давялося. У самы разгар спрэчак у пакой увайшоў комсамолец Леанід Шустаў. Ён прысеў на ўслон, што стаяў пры сцяне. Знешне Леанід быў спакойны, і толькі бляск вачэй сведчыў аб тым, што юнак хваляваўся. Анатоль адразу гэта адчуў і зразумеў, што Шустаў хоча паведаміць нейкія важныя факты. Неўзабаве Шустаў папрасіў слова.

— І што-ж гэта, таварышы, робіцца? — пачаў Леанід. — Коні ў другой брыгадзе не напоены, іх ніхто не чысціць, збруя за ездавымі не замацавана. Хіба так можна працаваць? Мы, члены кантрольнага комсамольскага паста, заяўляем: справа так не пойдзе! Патрабуем сурова пакараць вінаватых і навесці на канюшні сапраўдны парадак.

Брыгадзір другой брыгады паспрабаваў апраўдвацца, але на яго зашыкалі з усіх бакоў.

«Малайчына Леанід!» — з гонарам за таварыша падумаў Мяльніцкі.

Праз колькі дзён Мяльніцкаму давялося пабыць у другой брыгадзе. Вядома, ён заглянуў і на стайню. Анатоля прыемна здзівілі змены, якія там адбыліся. Радавала вока чысціня і парадак.

— Пра што думаеш, доктар? — нячутна падышоўшы да яго, спытаў стары вартаўнік.

— Ды вось любуюся вашымі парадкамі, — усміхнуўся Анатоль. Стары таксама ўсміхнуўся:

— А што, няблага стала, праўда? Гэта твае комсамольцы пастараліся. Не хлопцы, а агонь. Асабліва гэты Лёнька Шустаў. Гэткую праборку конюхам даў, лепш за брыгадзіра. Ды і брыгадзіру перапала. Вось і ўзяліся за работу.

Прыемна было Анатолю чуць гэтыя словы. Яны ўмацоўвалі веру ў сілу дружнага комсамольскага калектыву.

Асноўная задача ветфельчара — лячэнне жывёлы і прафілактыка. Але Анатоль разумее свае абавязкі значна шырэй. Не раз даводзілася Мяльніцкаму спрачацца з брыгадзірам пятай брыгады Дзямідам Шыбанавым, які зусім не цікавіўся жывёлагадоўляй. Пачнуць, бывала, сілас закладваць і трымаюць яму адкрытай сутак з пяць. Сілас псаваўся.

— Злачынства робіце, таварыш Шыбанаў, — казаў брыгадзіру Анатоль. — Жывёлу асуджаеце на бяскорміцу.

— Не мая справа, — адмахваўся Шыбанаў. — Ёсць загадчык фермы, да яго і звяртайся. У мяне іншае ў галаве.

Але Анатоль ад свайго не адступаў. Доўга яму даводзілася пераконваць паляводаў, каб яны дапамаглі жывёлаводам. У леташнім годзе ў калгасе працавалі спецыяльныя брыгады па нарыхтоўцы сакавітых кармоў. Было закладзена больш тысячы тон сіласу. Як мае быць папрацавалі комсамольцы.

Любіць Анатоль прайсці па фермах, пагаварыць з людзьмі. Аднаго разу ён падышоў да даяркі Тамары Карабіцкай, распытаў у яе пра ферму, пра тое, што яна чытае, як выконвае комсамольскае даручэнне. Параіў ёй, як лепш наладзіць працу. Мяльніцкі ўпэўнены, што пасля яго гутаркі Тамара будзе працаваць яшчэ лепш.

Прыкладных працаўніц на фермах калгаса многа. Даярка Вольга Казлоўская, цялятніца Валянціна Чарняўская, свінарка Раіса Сянчыла і многія іншыя сталі бачыць сваю галоўную мэту ў тым, каб зрабіць жывёлагадоўлю адной з самых даходных галін арцельнай гаспадаркі. Такія адносіны да сваіх абавязкаў выхавала ў іх комсамольская арганізацыя.

Пасля сканчэння дзесяцігодкі Зося Арнаутава хацела выехаць з калгаса ў горад і ўладзіцца на працу ў якую-небудзь установу. Даведаўся пра гэта Анатоль. Зайшоў да дзяўчыны.

— Як ты думаеш, Зося, які мы сёлета прыбытак атрымалі? — спытаў ён.

— А адкуль я ведаю, — паціснула плячыма Арнаутава.

— А табе трэба ведаць. Гэта-ж твой родны калгас. Два з палавінай мільёна рублёў — і трэцюю частку з іх дала жывёлагадоўля. А ў будучым годзе атрымаем яшчэ больш.

Зося недаверліва паглядзела на Мяльніцкага — ці не жартуе ён.

— Ужо зараз, як бачыш, фермы механізаваны: і водаправод ёсць, і падвесныя дарогі, і кормазапарнікі. Пройдзе крыху часу, і калгас стане яшчэ багацейшым

Зося сядзела моўчкі, яна слухала Анатоля. А ён працягваў:

— Вунь Тамара Карабіцкая надаіла ад кожнай каровы больш як па дзве тысячы літраў малака. Амаль столькі-ж надаіла Вольга Казлоўская. ЦК комсамола Беларусі ўзнагародзіў іх ганаровымі граматамі. А хіба ты не здолела-б так працаваць, як яны? Раю табе падумаць пра гэта.

Праз два дні Зося прыйшла ў праўленне і папрасіла накіраваць яе даяркай на ферму. Просьбу яе задаволілі.

Ішоў люты 1955 года. Радыё, а потым газеты прынеслі ў калгас імя Кірава радасную вестку — рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Цэлы вечар сядзеў над «Праўдой» Мяльніцкі, чытаў і перачытваў пастанову.

На другі дзень Анатоль пабываў на многіх фермах, гутарыў з жывёлаводамі. У адказ на рашэнні партыі нарадзіліся новыя павышаныя абавязацельствы. Цяпер маладыя даяркі калгаса спаборнічаюць за атрыманне ад кожнай каровы да двух тысяч літраў малака. Свінаркі далі слова вырасціць ад кожнай свінаматкі не менш чым па 16 парасят.

Уперадзе вялікія справы, і да іх вядзе комсамольцаў іхні важак Анатоль Мяльніцкі.

**Калгас імя Кірава Аршанскага раёна, Віцебскай вобласці.**

**Сакратар комсамольскай арганізацыі калгаса імя Кірава ветфельчар Анатоль Мяльніцкі гутарыць са свінаркамі Валяй Крукоўскай, Рытай Арнаутавай і Раісай Сянчыла.**

Фото І. Стэца.



# Запавет вялікага гуманіста

Вялікі французскі пісьменнік-гуманіст Рамэн Ралан пражыў сваё жыццё як барацьбіт за прагрэсіўныя ідэалы чалавецтва. «Пісьменнікі павінны бачыць далей, жыць глыбей, чым жывуць другія... Абраныя тыя, што крочаць на чале калоны, тварам да агню», — так фармуляваў задачу пісьменніка Ралан.

Рамэн Ралан прайшоў доўгі і складаны шлях ад чалавека, які ў пачатку першай сусветнай вайны быў у палоне пацыфісцкіх ілюзій, да дзеяча, які пазней горача і шчыра спачуваў справе соцыялістычнага будаўніцтва, справе барацьбы за мір, узначальваемай вялікім Совецкім Саюзам.

У час першай сусветнай вайны Рамэн Ралан вёў дзённік. Ён запісваў у яго ўласныя думкі і нагляданні, занатоўваў дакументы, якія чым-небудзь яго зацікавілі і, як здавалася пісьменніку, адлюстроўвалі сутнасць эпохі, перапісваў у дзённік лісты сваіх сяброў і свае адказы на гэтыя лісты. Так было напісана дваццаць дзевяць сшыткаў, якія склалі своеасаблівую «Гісторыю еўрапейскай душы ў час вайны народаў», як назваў іх сам пісьменнік. Дзённікі пазней былі перададзены на захаванне ў бібліятэку Базельскага ўніверсітэта ў Швейцарыі, а зробленыя з іх тры машынапісныя копіі, звераныя і падпісаныя аўтарам, былі перададзены ім у 1935 годзе яшчэ ў тры бібліятэкі: Дзяржаўную бібліятэку СССР імя В. І. Леніна (Масква), бібліятэку Нобелеўскага інстытута (Стакгольм) і бібліятэку Гарвардскага ўніверсітэта (Кембрыдж, ЗША).

Рамэн Ралан не хацеў, каб яго «Дзённікі ваенных год» друкаваліся цалкам пры яго жыцці. Ён пажадаў, каб яны захоўваліся запячатанымі на працягу дваццаці год, да 1 студзеня 1955 года, і толькі пасля гэтай даты былі распячатаны і надрукаваны. Запавет пісьменніка быў дакладна выкананы бібліятэкай імя Леніна ў Маскве, і ў сучасны момант совецкая грамадскасць атрымала доступ да гэтага цікавейшага дакумента. Па просьбе рэдакцыі часопіса «Маладосць» ніжэй друкуецца некалькі ўрыўкаў з «Дзённікаў ваенных год» Рамэна Ралана.

**С. ЖЫТОМІРСКАЯ,**
**загадчык аддзела рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна.**



Рамэн Ралан.

**28 красавіка 1915 г.**

**У той-жа дзень другое пісьмо ад французскага салдата... Ён гаворыць аб сваёй любві да маіх прац, сваёй замілаванасці да «другой Германіі», якую ён ведае і дзе правёў лепшыя гады свайго юнацтва. Ён не можа верыць, што гэтая Германія зусім знікла. Я яму адказваю (13 мая):**

**Вы не павінны выракацца сваіх успамінаў. Старая Германія, якую вы ведалі, існуе заўсёды; але ёй завязалі вочы і заткнулі рот. Павязка ўпала, а за ёй хутка выскачыць і затычка. Я чую ўжо шмат суцяшальных галасоў. Ах! захапляючыя лісты салдат, якія я чытаў! Колькі маральных пакут адчуваецца ў іх! Якая агіда да вайны! Якое асуджэнне тых, хто яе выклікаў і тых, хто яе праслаўляе! Пакуль гэтыя пачуцці атрымаюць усведамленне сваёй сілы ў масе народа — вось сведчанні маладой інтэлектуальнай Германіі, якая адвяргае шаленства першасвяшчэннікаў нямецкай думкі.**

**(Сшытак 8, стар. 43—44.)**

**Жнівень 1916.**

**Скандальнае ўзбагачэнне Злучаных Штатаў на вайне. Налічваюць (з Лондана, 12 жніўня) на 600 млн. фунтаў стэрлінгаў (15 мільярдаў) прыбыткаў ад ваенных матэрыялаў, заказаных саюзнікамі. Адно прадпрыемства — Бетлеем Стыл Карпарэйшн зарабіла на гэтым 60 мільёнаў фунтаў, кампанія Дзюпона — 40 мільёнаў, Балдуін Лакаматыў Воркс — 30 мільёнаў і г. д. Гэтыя велізарныя прыбыткі ажывілі амерыканскую прамысловасць і аддалілі пагражаўшы эканамічны крызіс. Да гэтага часу толькі палавіна заказаў выканана (Аванці, 13 жніўня). Найвялікшае злачынства: нейтральная краіна, якая спекулюе на прадаўжэнні забойстваў у Еўропе, увесь час вяла вайну, крывадушна гаворачы пра мір, каб сумленне было спакойнае.**

**(Сшытак 17, стар. 29—30.)**

**Студзень 1917.**

**Агіднае крывадушша мяснікоў, што балбочуць аб энтузіязме бараноў, якіх яны вядуць на бойню. Лойд-Джордж, вярнуўшыся ў Лондан пасля паездкі ў Рым, выступіў з прамовай, каб заклікаць англічан ісці за другімі ў мясарубку.**

**(Сшытак 19, стар. 22—23.)**

**Лета 1917 г.**

**Рэволюцыйная Расія дазволіла ўцягнуць сябе ў вайну. Керэнскі, які іграе ролю буржуазных соцыялістаў-нацыяналістаў Францыі, Англіі і Італіі, вядзе краіну да дыктатуры. Ленін у «Правде» выкрывае, што рускае наступленне ёсць вынік намаганняў англійскага пасла, амерыканскага Рута і асаблівая пагроз Вільсана, які ўстанавіў тэрмін наступлення, пасля гэтага тэрміну фінансавыя адносіны паміж Расіяй і Амерыкай былі-б спынены. Цяпер у мяне ўражанне, што Амерыка кіруе ўсім. У яе золата і хлеб. Еўропа павінна змагацца або здыхаць з голаду. Хутка нейтральным краінам будзе прадстаўлены выбар: або прымкнуць да саюзнікаў, або падцягнуць жывот. Я не мог-бы вытлумачыць сабе пазіцыю французскага парламента, пасля яго спроб да абурэння, які галасуе амаль адзінадушна ў карысць урада і вайны да канца, калі-б я не ўяўляў сабе гэтага пагражаючага і тайнага націску. Відавочна, Францыя, спустошаная вайной, па вушы ў даўгах, загіне ў выключнай галечы, калі Англія і Амерыка адмовяць ёй у фінансавай дапамозе. Але гэтая дапамога будзе ёй аказана толькі за кошт усёй яе крыві.**

**(Сшытак 21, стар. 86.)**

**20 студзеня 1919.**

**Кажуць, што вайна ўжо тры месяцы як закончылася. Але ніколі не было горшага прыгнёту думкі. Кантроль над пісьмамі невыносны...**

**Чаго баяцца? Аб бошах цяпер гутаркі няма (хоць некаторыя шалёныя ў Францыі — асабліва шалёныя жанчыны — працягваюць клекатаць аб нянавісці). Магчыма, большэвізм, які палохае буржуазію ўсяго свету, прымушае аб'еднацца ў свяшчэнным саюзе нямецкую і французскую буржуазію супраць агульнага ворага? Несумненна, гэта страх перад соцыяльным незадавальненнем. Але ёсць і другая прычына, галоўная, магчыма, у гэтыя дні для дыпламатычнай шайкі, якая акружае Клемансо і Саніно: гэта жаданне схаваць ад свету выразнае рознагалоссе, існуючае паміж поглядамі амерыканцаў (а можа быць, і англічан), з аднаго боку, і французаў — з другога.**

**(Сшытак 27, стар. 6—7.)**

**23 ліпеня 1919.**

**У 6 гадзін вечара, калі я размаўляў з Суарэцам, з якім я пабачыўся ўпершыню за шэсць або сем гадоў, у яго кватэры на вуліцы Касет 20 — неба загрукатала. Я падумаў спачатку, што гэта ўдар грому.**

**Але грукат працягваўся.**

**Гэта падпісанне міру. Пушкі вітаюць яго залпамі па дваццаць стрэлаў кожны. Сумны мір. Смехатворны антракт паміж двума знішчэннямі народаў! Але хто думае пра заўтрашні дзень?**

**(Сшытак 29, стар. 33.)**

## НАРОДНЫ УНІВЕРСІТЭТ

**Зноў узвіліся чырвоныя сцягі над павільёнамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Зазеляненелі, зацвілі, забуялі пад клапатлівым пры глядам людзей на доследных участках сельскагаспадарчыя культуры. З'явілася завязь на пладовых дрэвах, упрыгожыліся кветкамі клумбы і алеі. Сельскагаспадарчая выстаўка ажыла, загаманіла. Яшчэ зімой і ўвесну з усіх куткоў неабсяжнай нашай Радзімы ішлі эшалоны з экспанатамі — шчодрымі дарамі зямлі, любоўна вырашчанымі працавітымі рукамі калгаснікаў і калгасніц. З нашай рэспублікі паслалі на выстаўку кароў-рэкардыстак, свіней, адкормленых і дагледжаных руплівымі калгасніцамі, мяккі, як шоўк, лён любчанскіх, талачынскіх, карэліцкіх ільнаводаў, буйную, чыстую бульбу з калгасаў зоны Слуцкай МТС, кукурузу з палёў калгаса імя Молатава Брагінскага раёна, вырашчаную працавітымі рукамі калгасных камсамольцаў.**

**У леташнім годзе на выстаўцы пабывала знатная даярка калгаса «Сцяг комунізма» Давыд-Гарадоцкага раёна Соф'я Машлякевіч. Ад кожнай замацаванай за ёю каровы яна надаіла тады каля трох тысяч кілограмаў малака. На выстаўцы Соф'я Машлякевіч прыглядалася, прыслухоўвалася да вопыту другіх даярак краіны. Пабыўшы тыдзень ва ўсенароднай школе, яна навучылася многаму і ў сёлетнім годзе выйшла на першае месца ў рэспубліцы па надоях малака. Нядаўна ў Давыд-Гарадку грамадскасць раёна адзначала пяцігоддзе працы знатнай даяркі. Соф'я Машлякевіч, выступаючы на вечары, паабяцала працаваць так, каб кожны год быць удзельнікам выстаўкі...**

**Ільнаводы калгаса «Зара комунізма» Любчанскага раёна ў леташнім годзе з плошчы 120 гектараў сабралі па 7,6 цэнтнера ільнонасення і па 9 цэнтнераў валакна высокай якасці. Грашовы даход ад ільну з кожнага гектара склаў 31 868 рублёў. Дасягненні ільнаводаў шырока паказаны ў павільёне Беларускай ССР. Звяно комсамолкі Марыі Лазукі прадэманструе на выстаўцы вынікі сваёй самаадданай працы.**

**Сёлета, як і летась, на выстаўцы пабудуць тысячы калгаснікаў і калгасніц нашай рэспублікі — адны ў якасці ўдзельнікаў, другія — у якасці экскурсантаў. У гэтым народным універсітэце яны навучацца многаму — і таму, як вырошчваць высокія ўраджаі збожжа, тэхнічных культур, і таму, як дабівацца высокіх надояў, як выкармліваць свіней. Увесь гэты вопыт будзе скарыстаны, каб у бліжэйшыя гады забяспечыць багацце прадуктаў для народа, удосталь сыравіны для прамысловасці.**

**Іван НАУМЕНКА**

# З НЕЗАБЫЎНЫХ ДЗЁН

**Апавяданні**

Мал. Г. Паплаўскага.

## Эх, махорачка...

Бывае ў жыцці так, што самая позняя восень вясной здасца. Усё залежыць ад таго, які настрой у чалавека і чаго чалавек ад жыцця чакае. Мы з сябрам Цішкам Драздом ад жыцця чакалі шмат чаго, і таму нам было вельмі весела. Па-першае, мы чакалі нашых. Нашы былі ўжо на Дняпры, і ў ясныя асеннія вечары да партызанскага лагера на косетаўскіх балотах даносілася артылерыйская канانада. У такія хвіліны ўсе, хто быў у лагеры, вылазілі з шалашоў і прагна лавілі прыглушаны гул далёкай страляніны.



— Рады, дразды, бач, дзюбы раскрылі!.. — падыходзіў да нас дзядзька Апанас Мядзведзька. У сваім зялёным нямецкім шынялі і авечай кучомцы з чырвонай стужкай ён, гэты дзядзька, быў вельмі смешны. Але мы не смяяліся з яго ўбору, бо ў нас з Апанасам Мядзведзькам была асаблівая дружба.

Апанас Мядзведзька быў не абы якім дзядзькам, — ён быў чалавекам геройскім. Пра свае баявыя справы дзядзька Апанас расказваў не надта часта. Ведалі мы, што да вайны ездзіў ён машыністам, вадзіў хуткія кур'ерскія паязды. Неяк так здарылася, што разбамбілі яго поезд, і застаўся Мядзведзька на захопленай немцамі зямлі. Спрабавалі фашысты пасадзіць дзядзьку на паравоз. Але не вельмі пакаталіся, як кажуць: дзе селі, там і злезлі. У адну паездку стукнуў ён вартавога немца шухляй у каршэнь, а сам сiгануў з прыступак у цёмную ноч. Вядома, ад нямецкага поезда засталіся адны ўспаміны. Так Мядзведзька трапіў у наш партызанскі атрад «Смерць фашызму».

Як спецыяліста чыгуначнай справы, накіравалі дзядзьку ў падрыўную групу. Падрыўніком ён, мусіць, быў адменным, бо заўсёды перад заданнем сам камандзір атрада выклікаў дзядзьку да сябе ў шалаш і доўга з ім раіўся. Адным словам, дзядзьку Апанаса паважалі і любілі ў нашым атрадзе ўсе. Мы-ж пазнаёміліся з Апанасам Мядзведзькам на грунце махоркі, і гэта асаблівая гісторыя.

Справа ў тым, што дзядзька Апанас быў заядлым курцом, нездарма ў яго аж вусы былі жоўтыя. А тытуню-ж, вядома, у партызанах не садзілі. Ад недахопу курэння дзядзька проста хварэў. У такія дні, калі ў яго капшуку не было ні каліва, дзядзька хадзіў страшэнна злосны і на чым свет стаіць лаяў немцаў. Ды і не адзін толькі дзядзька Апанас цярпеў голад на махорку. Смешна было глядзець, як да якога-небудзь партызана, які разжыўся тытуню на закрутку, прыстрайвалася цэлая чарга. Гаспадару цыгаркі жаласліва пазіралі ў вочы і прагна чакалі, калі ўжо тая цыгарка пойдзе па кругу. Няхай-бы тады паспрабаваў хто лішні раз зацягнуцца!

Мы з Цішкам Драздом прыйшлі ў атрад з раённага гарадка, а да гэтага былі сувязнымі. Там, у гарадку, засталіся нашы сябры-падпольшчыкі, і да іх па розныя звесткі пра немцаў амаль кожны тыдзень пасылаў нас камандзір атрада. Вось пра гэта і даведаўся нейкім чынам Апанас Мядзведзька.

— Хадзіце, хлопчыкі, да мяне, — паклікаў ён нас аднойчы ў свой шалаш.

У дзядзькавым шалашы ляжалі розныя прычындалы падрыўной справы: жаўтаватыя шашкі толу, скруткі бікфордавага шнура, мяшочкі сухога пяску, узятага з чыгуначнага насыпу. Але дзядзька запрасіў нас не для таго, каб хваліцца сваёй гаспадаркай. Ён дастаў з кутка цынкавую каробку ад запалаў, але ў той каробцы ніякіх запалаў не было. Там быў чысты сотавы мёд. Мёду нам з Цішкам Апанас Мядзведзька тады не пашкадаваў. І мы доўга не маглі ўцяміць, з якой ласкі стаў ён да нас такім добрым. Але хутка ўсё праяснілася.

У той дзень, як камандзір атрада зноў паслаў нас з Цішкам у гарадок да падпольшчыкаў, у ляску, ужо за лагерам, дагнаў нас дзядзька Апанас. Ён так бег, што на ілбе ў яго аж раса выступіла. Мы спыніліся і не ведалі, што рабіць. Пра тое, што мы ходзім да падпольшчыкаў і прыносім розныя звесткі, не павінен быў ніхто ведаць, акрамя камандзіра. Адно неасцярожнае слова—і загубіш шмат людзей, тых, што ваююць без зброі, у падполлі. Таму слова «канспірацыя» мы з Цішкам цвёрда памяталі. Але Апанас Мядзведзька нездарма быў стралянай птушкай, ён ведаў, з якога боку падысці.

— Чуў я, хлопчыкі, што вы ў Зазыбы ідзеце, — не міргнуўшы вокам, прагаварыў ён. — Зайдзіце, будзьце ласкавы, да Фёдара Пінчука, ён з самага ўскрайку жыве, дзічка ў яго пад вокнамі. Няхай дасць махоркі. Скажыце Мядзведзька прасіў. Ён мне ніколі не адмовіць...

Хітры быў чалавек Апанас Мядзведзька! Зазыбы былі нашай, партызанскай, вёскай і ісці туды нам было нечага.

Мы з Цішкам кіўнулі ў знак згоды. А па дарозе наважылі, што прынясем Мядзведзьку махоркі, хоць і не пойдзем у Зазыбы. Нашы падпольшчыкі не то, што махоркі, птушынага малака дастануць, калі трэба для справы. А дзядзька Апанас варты таго, каб пачаставаць яго тытунём. Ну, а калі ведае крыху, куды мы ходзім, бяда невялікая, чалавек свой...

Мы з Цішкам не курылі і не ведалі смаку гэтай справы, хоць разумелі ўжо, што тытунь у партызанскім жыцці — рэч немалаважная.

У лагер мы вярнуліся не толькі са звесткамі для камандзіра, але і з некалькімі пачкамі тытуню для дзядзькі Апанаса. Тытунь мы прынеслі нямецкі, хоць акцыянерная кампанія Фрыца Вольфа і К°, як было напісана на пачках, мусіць і не здагадвалася, што яе прадукцыяй забяспечваецца самы непрымірымы вораг германскай імперыі — дзядзька Апанас. Дзядзька-ж Апанас ледзь не палез да нас цалавацца, калі мы аддалі яму тытунь. Зразумела, яму тлумачыць не трэба было, што махорка гэтая не той маркі, якую выраблаў Фёдар Пінчук з Зазыбаў.

Але варта было пабачыць дзядзьку Апанаса пасля таго, як ён зацягнуўся нямецкай махоркай.

— Смярдзюхі, увесь свет захацелі заваяваць, а махоркі людскай зрабіць не ўмеюць, — лаяўся дзядзька, але цыгарку не кідаў. — Гэта-ж не махорка, а пацяруха нейкая. Ні табе крэпасці, ні смаку, як салома. Вось да вайны махорка была, дразды! Купіш пачак за пяцьдзесят капеек, а яна што твой чай. Ядраная, моцная, ліха яе матары! Зацягнешся — і адразу чорцікі з рожкамі ў вачах заскачуць. Эх, хутчэй-бы закурыць нашай махорачкі...

Сказаць, каб дзядзька лішне грэбаваў нямецкай махоркай, усё-ж нельга было. Курыў ён яе зацята і, калі мы адпраўляліся на сувязь, хітравата падміргваў нам: прынясіце, моў, яшчэ. І мы прыносілі, хоць кожны раз ад дзядзькі моцна пападала і Гітлеру, і ўсёй яго радні за нізкую якасць тытунёвай прадукцыі.

І вось загрымела на Дняпры. Днём грымоты былі далёкімі, прыглушанымі, а вечарамі зямля гула безупынна, нібы хтосьці біў па ёй вялізнымі молатамі. Гэты гул мы слухалі, як най-



прыгажэйшую музыку. Слухалі і не маглі наслухацца. Часам нават не верылася, што праз які-небудзь тыдзень-два мы ўбачымся з нашымі, з тымі, хто ідзе ад самай Масквы і Сталінграда, што зноў можна будзе хадзіць па зямлі, не баючыся напаткаць варожую кулю.

Дзядзька Апанас проста памаладзеў. Ён ужо зусім не здаваўся нам смешным у сваім доўгапалым нямецкім шынялі. Адзін раз мы засталі дзядзьку за незвычайным заняткам: ён галіўся. Дрымучая дзядзькава шчэць не хацела паддавацца пераломленай брытве, але Апанас Мядзведзька быў не з такіх, каб адступаць.

— У войску павінен быць парадак, — растлумачыў ён нам. — Асабліва, калі войскі сустрэнуцца — рэгулярнае і партызанскае...

Вечарамі, калі здаралася быць у лагеры, мы сыходзіліся ўтраіх, лажыліся на сена і слухалі далёкія гарматныя грымоты. Любілі мы пазі-



рацьі ў зорнае асеннее неба. У ім цяпер часта мільгалі агеньчыкі нашых самалётаў. Яны ішлі на захад. Любілі мы слухаць таксама дзядзькавы размовы.

— Прыдуць нашы, — развіваў планы на будучае дзядзька, — дык я першай справай на газеты накінуся. Кожную газетку за гэтыя два гады, што без мяне выходзіла, прачытаю. А пасля сяду на паравоз — і даёш Берлін! Я, драздь, яшчэ палятаю па чыгунках...

Назаўтра мы зноў накіраваліся да сваіх сувязных у гарадок. Звесткі былі важнымі — уся станцыя была забіта эшалонамі. Немцы збіраліся ўцякаць. У лагер мы неслі гэтыя радасныя звесткі і некалькі пачак нямецкай махоркі для дзядзькі Апанаса. Мы лічылі, што гэтая махорка будзе апошняй і насіць яе нам больш не прыдзецца.

Апанаса Мядзведзькі ў лагеры не было, ён пайшоў з групай на чыгунку. Нас-жа камандзір атрада, не даўшы ні хвіліны адпачыць, паслаў на новае заданне. Але мы і не адчувалі стомы, бо такое заданне, якое цяпер выпала на нашу долю, можна было выканаць толькі адзін раз у жыцці. Фронт быў блізка, і камандзір пасылаў нас для сувязі з наступаючымі часцямі нашай арміі.

Мы ішлі ўсю доўгую асеннюю ноч, а назаўтра раніцай, у соўгасе, паблізу ад гарадка, убачылі нашых. Трое хлопцаў-разведчыкаў, крыху старэйшых за нас, былі першымі воінамі, каго мы ўбачылі. Мы прывіталіся, як салдаты, як даўно знаёмыя. Разведчыкі, пагаварыўшы з намі, папрасілі нас крыху пачакаць і адышліся ў лес. Там, пэўна, была рацыя, бо праз гадзіну ў соўгас уступілі часці.

Двое разведчыкаў з дазволу камандавання пайшлі з намі ў партызанскі лагер, каб устанавіць сувязь. Дарогай яны папрасілі ў нас закурыць, і мы аддалі ім апошнюю нямецкую махорку, якую не паспелі аддаць дзядзьку Апанасу. Мы думалі, што яны будуць лаяць тытунь таксама, як і дзядзька Апанас, але яны курылі і не казалі нічога.

Мы зноў лёгка прайшлі ўсю дарогу да лагера і першым, каго мы ўбачылі, быў дзядзька Апанас. Ён подбегам шыбаваў да нас, падбіраючы полы свайго нямецкага шыняля, і на вачах у яго, здаецца, былі слёзы. Ён нічога не змог сказаць пры сустрэчы, толькі пацісную разведчыкам рукі і пайшоў поруч з намі.

— Дайце, хлопцы, закурыць, — нарэшце прамовіў дзядзька, і яго голас задрыжаў. — Сыгралі мы немцам на чыгунцы развітальны марш...

Разведчыкі пераглянуліся, зірнулі на нас і працягнулі Мядзведзьку свае кісеты. Ён тарапка скруціў цыгарку, прыкурыў і глыбока зацягнуўся.

— Ну, дзякуй вам, хлопчыкі, адразу пачуў сапраўдны смак. Вы не ведаеце, якую мы дрэнь курылі цэлыя два гады...

Мы з Цішкам таксама закурылі тады за кампанію. І мы зразумелі яшчэ, што позняя восень можа быць надзіва падобнай да сонечнай вясны. Эх, махорачка!..

# Сідар і Гараська

У поўдзень, як стане сонца над самай галавой, рэйкі награваюцца так, што на іх боязна ступіць босай нагою. Калі ад таго месца, дзе рамонтная брыгада робіць разгонку, паглядзець уздоўж чыгуначнага палатна, то здаецца, што якраз каля крывой гэтае палатно становіцца рэчкай, а над ёю трымціць-пераліваецца туманная бель. У хвіліны гэтакай нясцерпнай спякоты брыгада звычайна ладзіцца на абед. Пуцейцы, пераважна дзядзькі ў гадах, спакваля ідуць у халадок, дастаюць акрайцы хлеба і бутэлькі з малаком. Без абеду аціраецца адзін толькі Гараська, цыганаваты хлопец з вачамі-слівінамі, самы малодшы з пуцейцаў. Жыве Гараська самапасам, начуе ў нейкай цёткі, якая яму раднёй, як дзесятая вада на кісялі. Пра гэтую цётку расказвалі, што ў яе зімой лёду не дастанеш. Але Гараська быў не з тых, што асабліва задумваюцца над нягодамі лёсу.

Якраз апаўдня, нібы па гадзінніку, на гарызонце з'яўляецца доўгая, як дзіда, постаць пуцявога абходчыка Сідара, будка якога стаіць непадалёку ад месца работы. Сідар так павольна пераступае свае ногі, якія ў яго амаль не згінаюцца ў каленях, што здаецца, быццам ён ідзе па вузкай, небяспечнай кладцы. Гараська ў гэты час ужо напагатове. Прыладзіўшыся на броўцы, ён пільна сочыць за Сідарам.

— Руб дваццаць, сыр з маслам, — дэкламуе ён у такт павольным сідаравым крокам.

У кустах чуецца прыцішаны рогат. Усе з цікавасцю чакаюць дармавога спектакля, які кожны дзень разыгрываецца Гараськам.

— Пастаў Сідару на галаву шклянку з вадой, то ўвесь абход зробіць і кропелькі не праллье, — выказвае свае нагляданні Гараська.

Але самае цікавае адбываецца тады, калі Сідара запрашаюць перакурыць. Гараська, уставіўшы вочы ў дол, ціхенька падсядае да дзядзькоў. У яго на твары такі адбітак спакою і паслухмянасці, што Сідар, які раз-по-раз кідае насцярожаныя позіркі ў бок хлопца, канчаткова супакойваецца і заводзіць гаворку.

— Дзядзька Сідар, — лагодным галаскам пад'язджае Гараська. — Казалі, што ўчора вы ў грыбы хадзілі. Дык як, растуць ужо грыбы?

— Якія цяпер грыбы? — не чакаючы падкопу, павольна цягне Сідар. — Увесь лес абхадзіў і знайшоў толькі два баравікі.

— А пастухі казалі, што вы нешта ўсё вакол кароўяга тырла кружылі. Якія-ж там грыбы ў алешніку...

Дзядзькі, пападаўшы ў траву, сіпяць прыдушаным смехам, і Сідар, нарэшце, разумее, што ўсю гэтую гутарку Гараська распачаў не так сабе.

— А каб табе твой паганы язык адсох!.. — злуецца абходчык і ўскладвае на плечы свае прычындалы. — Каб цябе чэрці ў тым алешніку кружылі, дзе ты мяне ў грыбах бачыў...

Невядома, колькі-б працягвалася гэтая несціханая вайна паміж абходчыкам Сідарам і цыганаватым Гараськам, каб не адбыліся падзеі інакшага маштабу, якія надоўга прымусілі забыць пра гэтыя жыццёвыя дробязі.

Аднойчы, калі рамонтная брыгада размясцілася на абед, усе ўбачылі нешта незвычайнае. Па шпалах, сігаючы ва ўсе свае доўгія ногі, бег Сідар. Ён быў без шапкі, у расхлістанай сарочцы, і з твару яго ручаямі цурчаў пот.

— Хлопцы, вайна! — не дабегшы да пуцейцаў, закрычаў ён хрыплым, натужным голасам. — Германец напаў...

Пуцейцы склалі інструмент на ваганетку з чырвоным сцяжком і павольна рушылі на станцыю. Ззаду ўсіх крочыў Гараська, ён ішоў задуменны і маўклівы.

Перад прыходам немцаў рамонтная брыгада распалася. Адны пайшлі ў армію, другіх эвакуіравалі ў глыбінныя раёны. Сідар, які быў хворы на ногі, застаўся ў сваёй будцы, а Гараська некуды знік з вачэй.

Прыкладна праз год доўгая постаць Сідара зноў пачала маячыць па чыгуначнаму палатну. Толькі цяпер па рэйках на ўсход каціліся нямецкія эшалоны. Яны часта везлі гарматы, танкі і іншую вайсковую амуніцыю. Сідар спачатку ні ў якія абходчыкі ісці не думаў. Ён корпаўся дома і асабліва не любіў паказваць носа далей будкі. Усё неяк сталася само сабой. Вясной у будку ўваліліся некалькі чалавек у чорных мундзірах нямецкіх чыгуначнікаў. Яны, нават не прывітаўшыся з Сідарам, з выглядам гаспадароў сталі аглядаць памяшканне.

— Ты работа́ць мусіш, — тыцнуўшы пальцам у грудзі Сідару, заявіў тоўсценькі майстар. — Будка ёсць германская маёмасць. Не пойдзеш, — з будкі заўтра вон...

— Хворы-ж я чалавек, раматус у мяне, — спрабаваў адмовіцца Сідар.

— За сабатаж — вось што! — тоўсценькі майстар, шчоўкнуўшы сабе па горле, намаляваў пальцам у паветры пятлю...

Назаўтра Сідар пайшоў у абход. Праўда, на яго службу новыя гаспадары, мабыць, пакладаліся не вельмі. Узбоч палатна яны павысякалі лес і кусты, а на кожным кіламетры чыгункі пазаймалі будкі, набудавалі бліндажоў і паставілі туды сваю варту. Двое салдат з гэтай варты ўвесь час шпацыравалі па сідараваму абходу.

Аднойчы, калі Сідар сядзеў у будцы і абедаў поснай заціркай, адчыніліся дзверы і на парозе з'явіўся Гараська. Сідар не бачыў яго, бадай, з самага пачатку вайны, і было ў гараськавым абліччы нешта новае, незнаёмае

Іван КАЛЕСНІК

## СЯСТРА

Успомні, сяброўка, юнацтва,
Кахання і дружбы пару!
Нікому не мог я прызнацца,
Цябе выдаваў за сястру...

І доўга ў сумоце хадзілі
Мае аднагодкі-сябры.
Яны ў мяне часта прасілі:
— Скажы ты нам адрас сястры.

І кожнаму я, ўсхваляваны,
Заўсёды адказваў адно:
Што ёсць у яе ўжо каханы,
Што дружыць яна з ім даўно.

У восень глыбокую раптам
Настала вяселля пара.
І кідалі хлопцы мне жарты:
— А нам гаварыў, што сястра?!.

раней. Вочы-слівіны пазіралі неяк удумліва і насцярожана, абветраны твар здаваўся памужнелым. Сустрэў гаспадар Гараську не надта ветліва.

— Дык вы, дзядзька, значыць, на ранейшай службе? — Гараська, не пытаючыся дазволу, сеў на лаўку і ўтаропіўся ў Сідара.

— А ты што за такі спрос?

— Ды я так, па старому знаёмству. Цікава, а шмат вам немцы плоцяць? Можа і падвышэнне па службе вам выйдзе?

— Адчапіся ты ад мяне, хлопец... — Сідар адклаў лыжку і засмучана паглядзеў у акно. — Трэба мне гэтая служба, як сабаку пятая нага. Дзень пражыў, і дзякуй богу. Добра, што жывыя засталіся. Такая сіла ў немца, што ты зробіш...

— Невясёлае жыццё, — сказаў Гараська на развітанне і пайшоў да выхаду. Ён з незалежным выглядам прайшоў міма сідаравых акон і пашыбаваў у кірунку станцыі.

Пра гараськава наведванне Сідар хутка забыў. Хапала ўсялякіх клопатаў і без гэтага. Сваю службу нёс ён спраўна, хоць і не вельмі стараўся. Усё ішло пакуль што ціха, а большага ён і не хацеў. Неяк Сідар, робячы абход, заўважыў шурупу, якая вытыркалася са шпалы. Немцы перашылі чыгунку на свой манер: кастылі яны замянілі непадатлівымі шурупамі, якія трэба было завінчваць ключом. Сідар хацеў закруціць шурупу, але яна не паддавалася. Ён налёг ключом мацней, і заржавелая галоўка шурупы адламалася. Ён падняў яе і кінуў у адхон. У гэтую-ж хвіліну ад моцнага ўдару ў скронь Сідар упаў на палатно, і ў яго вачах паплылі чырвоныя кругі. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў над сабой тоўсценькага майстра, які, як ашалелы, скакаў па шпалах.

— Шуруп ёсць нямецкі маёмасць! — крычаў майстар. — Ты ёсць шкоднік, ты псуеш дзяржаўную маёмасць... Цябе трэба пад суд! Ідзі, прынясі шуруп...

Сідар доўга поўзаў па адхону, шукаючы галоўку шурупы. Знайшоўшы, ён моўчкі аддаў кавалак іржавага жалеза майстру. Той ужо ўтаймаваўся і, шпурнуўшы шурупу, павучаў:

— Ты павінен быць прыклад у рабоце. Германія любіць сумленны рабочы...

Па рэйках ляскалі нямецкія эшалоны, якія ішлі на ўсход, і Сідар усё часцей думаў аб тым, як выбрацца куды-небудзь з будкі. Тады-б можна было лягчэй расквітацца з гэтай службай. На якое ліха яна яму здалася... Але праходзілі дні, тыдні, і ўсё заставалася па-ранейшаму.

Аднойчы ў месячную летнюю ноч Сідар павольна чыкільгаў па свайму абходу. Уперадзе, крокаў за сто, раз-по-раз слізгаючы электрычнымі ліхтарыкамі па рэйках, ішлі нямецкія вартавыя. Сідар дайшоў ужо да мастка на крывой, а за ім канчаўся яго абход. Раптам з адхону ўзнялася чорная постаць і ў тую-ж хвіліну Сідар ляжаў на броўцы, прыціснуты да яе нечымі дужымі рукамі.

— Не ўздумай толькі крычаць... — пачуў Сідар узбуджаны шэпт. — Нямецкі вартаўнік!..

Сідар расплюшчыў вочы і ад страху і здзіўлення па яго целу папаўзлі мурашкі. Проста яму ў твар дыхаў узбуджаны Гараська, а каля мастка завіхаліся яшчэ двое.

— Вось і сустрэліся, дзядзька Сідар, — шаптаў Гараська. — Ды ты не бойся, маўчы толькі, мы цябе не зачэпім...

— Пашкадуйце мяне, хлопчыкі. Заб'юць-жа мяне...

— Паўзі пад адхон, — пачуў Сідар уладарны шэпт і кулём скаціўся з броўкі.

Тыя хвіліны, што ён ляжаў пад адхонам, здаліся Сідару доўгімі-доўгімі. Ён адчуваў, што ўсё яго цела пакрылася ліпкім, халодным потам. Нарэшце там, перад крывой, пачуўся гул поезда, які хутка нарастаў. Сідар зразумеў, што цяпер усё скончана і неяк адразу пакінуў хвалявацца. У галаве наступіла поўная яснасць. Чамусьці ўспомніўся тоўсценькі майстар, які ўдарыў яго ў скронь і прымусіў поўзаць па адхону, шукаць заржавелую шурупу.

— Запалкі адсырэлі, Гараська, — пачуў Сідар прыглушаны голас. — Не паляцца.

— Давай сюды, халява!..

Гул нарастаў, поезд быў ужо зусім блізка ад мастка.

— У мяне ёсць запалкі, на, вазьмі, Гараська, — сказаў Сідар на поўны голас.

Гараська кошкай каўзануўся па насыпу і дрыжачымі рукамі ўзяў карабок. Сідар падняў галаву і глядзеў, як ён падпальваў чорны шнур, які вёў да скрынкі, прымацаванай пад мастком. Яны ўчатырох беглі па бульбянішчу да хмызнякоў.

— Дзякуй табе, дзядзька, вось што, — прыблізіў да Сідара ўзмакрэлы твар Гараська. Ён дыхаў часта-часта, і Сідар чуў, як тахкала яго сэрца...

— Мы так зробім, што не зачэпяць цябе... Дапамагай нам тут, а?..

У адно імгненне Сідару звязалі рукі і спуталі доўгай вяроўкай ногі.

— А гэта дакумент для немцаў, не крыўдуй, дзядзька, — і Гараська, размахнуўшыся, ударыў Сідара кулаком у пераносіцу. У тую-ж хвіліну над крывой узняўся вялізны слуп агню.

Праз колькі дзён Гараську давялося яшчэ раз сустрэцца з Сідарам. Ад доўгага блукання па лесе сідаравы чаравікі стапталіся ўшчэнт і пазіралі на свет вялікімі зевамі. На пераноссі ў абходчыка красаваўся ладны, з стары нікалаеўскі пятак, крывепадцёк, але вочы былі жывымі, вясёлымі.

— Не магу я больш там, Гараська, — сказаў Сідар. — З сіл выбіўся, пакуль знайшоў вас...



# ДОМ ТЭХНІКІ

Нядаўна на адным з будынкаў па вуліцы Карла Маркса ў Мінску з'явілася дошка з надпісам «Рэспубліканскі дом тэхнікі». І вось цяпер увагу не толькі мінчан, але і шматлікіх экскурсантаў з іншых гарадоў Беларусі прыцягвае адкрытая ў Доме тэхнікі выстаўка беларускай прамысловасці. Дэманструецца прадукцыя аўтамабільнага і трактарнага заводаў, вырабы віцебскіх, гомельскіх і аршанскіх станкабудаўнікоў, прадукцыя прадпрыемстваў Магілёва, Ліды, Гродна і іншых гарадоў рэспублікі. Шматлікія стэнды расказваюць аб лепшых наватарах беларускіх прадпрыемстваў.

Але выстаўка — гэта толькі частка Дома тэхнікі. Аб іншых справах яго мала хто яшчэ ведае. Асноўная задача Дома тэхнікі — перадача вопыту наватараў, знаёмства ўсіх рабочых і інжынераў рэспублікі з навейшымі дасягненнямі прамысловасці. Немалое месца займае і лекцыйная прапаганда. У клубах прадпрыемстваў, на заводах і фабрыках, у разнастайных лекцыйных залах лепшыя інжынеры, тэхнікі, вучоныя рэспублікі расказваюць аб перадавых метадах працы, аб тэхнічных дасягненнях, аб усім новым, што сустракаецца ў жыцці прадпрыемстваў. Сярод лектараў — дырэктар Мінскага падшыпнікавага завода кандыдат тэхнічных навук П. Яшчарыцын, прафесар політэхнічнага інстытута Э. Адэльскі, кандыдат тэхнічных навук Н. Юркштовіч і многія другія.

Дом тэхнікі пачаў праводзіць «Дні наватара», на якіх лепшыя рабочыя дзеляцца сваімі дасягненнямі. Выступалі ўжо вядомы маскоўскі зваршчык Назараў, зваршчык Мінскага трактарнага завода Антонік, каменшчык Філіпаў.

Для машынабудаўнікоў і будаўнікоў працуюць семінары.

Нягледзячы на тое, што Дом тэхнікі працуе менш года, ім выдадзена ўжо немалая колькасць кніг, лістовак і плакатаў аб укараненні скорасных рэжымаў рэзання металаў, аб выкарыстанні магнітных дэфектаскопаў, аб новым у тарфяной прамысловасці, у будаўнічай тэхніцы і іншых галінах індустрыі.

У канцы сакавіка Дом тэхнікі пераехаў у новы будынак, што дае магчымасць яшчэ шырэй разгарнуць работу. У бліжэйшы час адкрываецца кабінет электра- і радыётэхнікі, лабараторыя рэзання металаў, абсталяваная станкамі навейшай канструкцыі, дзе можна будзе пазнаёміцца з работай разцоў розных канструкцый. Адкрываюцца таксама кабінеты рацыяналізацыі і вынаходніцтва, дзе можна будзе атрымаць кансультацыю па любому пытанню. Пры Доме тэхнікі пачне дзейнічаць кіналекторый.

Беларусь стала буйной індустрыяльнай рэспублікай. Дом тэхнікі будзе ў многім спрыяць шырокаму распаўсюджанню ўсяго перадавога, што мае прамысловасць Савецкага Саюза.

**Б. МАРТЫНАЎ.**

# ДАЛЁКА АД МАРСКІХ ПРАСТОРАЎ

Аляксандр МІРОНАЎ

Ад Мінска да берагоў бліжэйшага, Балтыйскага, мора нямала соцень кіламетраў. І ўсё-ж Мінск, Беларусь далі нашаму флоту шмат адважных патрыётаў, якія праславіліся сваімі подзвігамі на моры.

Сярод іх — герой Вялікай Айчыннай вайны віцэ-адмірал Дрозд; удзельнік паўстання на браненосцы «Пацёмкін» Павел Галубовіч; герой грамадзянскай вайны Фёдар Саманчук, які падарваў свой карабель, каб ён не трапіў у рукі ворагу. Маракі-беларусы штурмавалі Зімовы палац, змагаліся на франтах грамадзянскай і Айчыннай войнаў, заваёўвалі Арктыку, плавалі і плаваюць па ўсіх морах і акіянах зямнога шара.

Мора! Каго з юнакоў не хвалюе гэтае слова, хто не марыць памерацца сіламі з магутнай стыхіяй і перамагчы яе!

Вось чаму такой шырокай папулярнасцю карыстаецца ў падлеткаў і юнакоў беларускай сталіцы Мінскі абласны марскі клуб ДТСААФ, створаны ў пасляваенныя гады.

Уваходзіш у двухпавярховы будынак клуба з масіўным марскім якарам на фасадзе, і адразу ўсё нагадвае табе аб моры, аб нялёгкай, але захапляючай марской службе.

Марская служба — гэта, перш за ўсё, дзесяткі самых разнастайных спецыяльнасцей, якія патрабуюць высокіх ведаў, спрыту, умення валодаць дакладнымі прыборамі і тэхнікай. Марскі клуб для таго і існуе, каб будучы марак мог тут вызначыць сваё прызванне, авалодаць асновамі будучай спецыяльнасці. Таму ў вучэбных кабінетах усё зроблена так, як бывае на самай справе, на самых сапраўдных караблях.

У кабіне сігнальшчыкаў — сігнальныя флагі, прыборы сігналізацыі, набор флагаў расцвечвання. Да паслуг рулявых ёсць усё, з чым яны сустрэнуцца на карабельным мосціку. У другім кабінеце — мадэлі баявой зброі. У радыё- і электракабінеце — прыёмнікі, перадатачныя станцыі, «зумеры» і ключы, з дапамогай якіх ужо зараз можна дасканала авалодаць азбукай Марзе.

Але ёсць і тое агульнае, без чаго не можа абысціся ні адзін марак, — так званая марская справа. Лепш за ўсё ёй можна авалодаць будуючы марскія мадэлі. Марскім мадэлізмам з захапленнем займаюцца ўсе члены клуба. У кабінеце марскога мадэлізма можна сустрэць і школьніка Юру Жутаева, і студэнта лесатэхнічнага інстытута Усевалада Нортмана, і рабочага радыёзавода Валерыя Гарабцова, і многіх, многіх другіх. Іх умелымі рукамі зроблены шматлікія, самыя разнастайныя мадэлі, якія прымалі ўдзел у рэспубліканскіх і ўсесаюзных спаборніцтвах марскіх мадэлістаў.

Сёлета ў дэмакратычным сектары Берліна адбудуцца міжнародныя спаборніцтвы марскіх мадэлістаў. У іх наважылі прыняць удзел і члены Мінскага марскога клуба ДТСААФ. Будучыя маракі рыхтуюць мадэлі самых сапраўдных, толькі мініятурных, марскога пасажырскага судна і двух баявых караблёў. Яны будуць рухацца сваім ходам і, больш таго — кіравацца на адлегласці. Не стаяць у баку ад гэтай справы і радысты, якія імкнуцца зрабіць мадэлі, кіруемыя па радыё.



Эдуард Вішнеўскі сканструяваў мадэль пасажырскага судна, якое кіруецца па радыё. На здымку: Эдуард Вішнеўскі (злева) і інжынер-інструктар па марскому мадэлізму В. М. Ермакоў.

Фота А. Дзітлава.

Напружаныя гадзіны вячэрніх заняткаў. Тут і вывучэнне ваеннай справы, і практычная стральба з вінтоўкі, і чыста марская фізкультура, так званае марское многаборства, у комплекс якога ўваходзіць перацягванне каната, хаджэнне на шлюпках пад парусамі і на вёслах, плаванне, прыжкі ў ваду і многае іншае, з чым сустракаецца марак ледзь не кожны дзень.

Члены марскога клуба трымаюць першынство па многаборству сярод каманд ДТСААФ рэспублікі. Летась ва ўсесаюзных спаборніцтвах у Новарасійску яны занялі шостае месца па многаборству, а сёлета наважылі абавязкова палепшыць гэты вынік.

З клубнымі мадэлістамі трымаюць самую цесную сувязь мадэлісты Мінскага палаца піянераў, дзе вырастае цудоўнае папаўненне для Марскога клуба.

Асабліва ажыўлена ў клубе ў гэтыя летнія дні. На штучным возеры ў будучых маракоў ёсць свой пірс і свае спартыўныя марскія шлюпкі. Тут ідзе вывучэнне марской практыкі, спаборніцтвы ў веславанні, хаджэнне пад парусамі, выхоўваюцца якасці, без якіх не можа абысціся ні адзін марак, — спрыт, сіла, кемлівасць, адвага.

# ГОСЦІ З КІТАЯ



Сакратар ЦК Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая Ху Кэ-шы выступае на вечары сустрэчы з камсамольцамі Мінска.

Многа тысяч кіламетраў раздзяляюць Беларусь і Кітай, але для шчырай дружбы паміж нашай і кітайскай моладдзю такая адлегласць не з'яўляецца перашкодай. Беларускія юнакі і дзяўчаты ўважліва сочаць за поспехамі кітайскай моладзі ў працы, вучобе і культурным будаўніцтве. Маладыя кітайцы яшчэ ў дні Вялікай Айчыннай вайны захапляліся мужнасцю і гераізмам беларускіх народных мсціўцаў, а цяпер з гордасцю сочаць за актыўным удзелам маладых беларусаў у будаўніцтве комунізма.

Многія нашы юнакі і дзяўчаты перапісваюцца з кітайскімі таварышамі, расказваюць ім пра свае поспехі ў працы і вучобе. І амаль заўсёды, як толькі кітайская маладзёжная дэлегацыя прыязджае ў Совецкі Саюз, яна наведвае і нашу сталіцу, горад Мінск. Не раз бывалі ў Кітаі нашы юнакі і дзяўчаты. Моцная дружба звязвае совецкую і кітайскую моладзь.

У Мінску некалькі дзён гасціла дэлегацыя Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая. Госці пабывалі на аўтамабільным заводзе, абутковай фабрыцы, у рамесным вучылішчы, вячэрняй школе, політэхнічным інстытуце. Каб пазнаёміцца з жыццём сельскай моладзі, маладыя кітайцы наведалі калгас «Першае Мая» Мінскай вобласці.

Сардэчна, шчыра сустракала кітайскіх гасцей беларуская моладзь. У іх асобе яна бачыла сябраў, таварышаў па барацьбе за вялікую справу.

Сотні тысяч юнакоў і дзяўчат — членаў Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая — разам з усім працоўным кітайскім народам будуюць новае шчаслівае жыццё. Па прыкладу совецкіх сяброў кітайская моладзь актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве фабрык, заводаў, шахтаў, новых домнаў. Нябывалае па сіле спаборніцтва разгорнута сярод маладых будаўнікоў. Новадэмакратычны Саюз моладзі Кітая за кароткі час выхаваў сваіх Бусыгіных, Стаханавых, Чуткіх, Ангеліных. Сотні наватараў вытворчасці па прыкладу совецкіх маладых людзей дабіліся выдатных поспехаў у авалоданні перадавой тэхнікай.

Прага да навукі заўсёды была характэрнай рысай кітайскай моладзі. Але раней працоўны чалавек не мог нават думаць аб вучобе. Затое цяпер у Кітаі вучацца ўсе: старыя і малыя. Моладзь абвясціла барацьбу непісьменнасці і дабілася ўжо значных поспехаў.

На шляху кітайскага народа многа цяжкасцей, але яны будуць пераадолены. Зарукай гэтага—талент разняволенага кітайскага народа, які пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будуе новае жыццё.

Вечар сустрэчы прайшоў у шчырай, таварыскай абстаноўцы.

Фота А. Дзітлава.



Выступаючы ў Мінску на вечары сустрэчы моладзі Мінска з дэлегацыяй, сакратар ЦК Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая Ху Кэ-шы сказаў:

— За час знаходжання ў Мінску мы пабывалі на прадпрыемствах, у навучальных установах, школах і бачылі, як моладзь сталіцы памнажае свае поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі, павышае свае веды. Мы азнаёміліся з вопытам работы некаторых комсамольскіх арганізацый, і ваш вопыт дапаможа нам, Новадэмакратычнаму Саюзу моладзі Кітая, у выхаванні кітайскіх юнакоў і дзяўчат.

Праводзячы дарагіх гасцей, маладыя беларусы жадалі кітайскім таварышам новых поспехаў у выхаванні падрастаючага пакалення.

А. КАВАЛЬЦОЎ.



Ф. Е. Саманчук у гады службы на флоце.

# САПРАЎДНЫ ЧАЛАВЕК

М. ДАНІЛЕНКА

Фото М. Ананьіна.

У вёсцы Пярэдзелка на Лоеўшчыне жыве шасцідзесяцітрохгадовы Фёдар Еўдакімавіч Саманчук. Сем гадоў ён працуе загадчыкам і майстрам лесапільнага цэха на заводзе Лоеўскага райкомунгаса. Кожную раніцу гэты яшчэ бадзёры стары крочыць на пасёлак Пабядзіцель, дзе пад дашчанай павеццю ўстаноўлена піларама. Чалавек праз меру сціплы, Фёдар Еўдакімавіч не любіць расказваць пра сябе, пра сваё жыццё.

Не так даўно зусім выпадкова ўдалося даведацца, што гэты просты з выгляду чалавек зрабіў гераічны подзвіг, які праславіў сцяг рускага савецкага флоту. Пра гэты подзвіг, пра сённяшнія будні героя расказваецца ў гэтым фотанарысе.

Быў кастрычнік 1917 года. Каб задушыць пралетарыят рэвалюцыйнага Петраграда, у Балтыйскае мора ўвайшлі 320 караблёў кайзераўскай Германіі. Насустрач варожым суднам выйшлі караблі Балтыйскага флоту. У раёне Моанзундскага архіпелага адбылася бітва, у якой было знішчана шмат нямецкіх караблёў, з нашага-ж боку было страчана толькі два караблі — лінкор «Слава» і эскадраны мінаносец «Гром».

Дваццаціпяцігадовы Фёдар Саманчук, мінна-машынны старшына эскадранага мінаносца «Гром», стаяў каля тарпедных апаратаў, наглядаў і думаў: «Вораг не павінен прайсці да Петраграда».

Поруч з «Громам» ішлі эсмінцы «Пабядзіцель» і «Забіяка». За бартом віхрылася белай пенай вада. «Гром» то апускаўся кілем у хвалі, то, падымаючыся на іх, ляцеў наперад. Фёдар выконваў абавязкі дзяжурнага па караблю.

Падыходзілі да Моанзундскага архіпелага. Астравы ахутваў густы туман. Над караблём калі-нікалі пралятаў белакрылыя чайкі.

— Па левым барту варожы лінкор! — пачуўся голас матроса-наглядальніка.

Фёдар паглядзеў за левы борт. Над свінцовымі хвалямі мора ён убачыў цёмную паласу дыму. Праз нейкі момант ужо нават няўзброеным вокам можна было ўбачыць палубныя надбудовы судна.

На збліжэнне з эскадраным мінаносцам і эсмінцамі «Пабядзіцель» і «Забіяка» ішоў варожы лінкор.

Гадзіннік паказваў 13 гадзін 50 мінут.

— Баявая трывога! — данеслася каманда.

Па трапах загрукалі цяжкія, падкаваныя матроскія чаравікі. Фёдар прыпаў да прыцэла тарпеднага апарата. Ужо відаць назва нямецкага карабля — ненавіснае слова «Кайзер».

З варожага лінкора адкрылі агонь. Вецер разагнаў туман, і было відно, як на ім раз-по-раз успыхваюць водбліскі стрэлаў.

Першы варожы снарад разарваўся ззаду мінаносца. У неба ўзляцеў велізарны слуп вады. Лінкор «Кайзер» вёў агонь з дальнабойных буйнакаліберных гармат. Матросы з «Грома» ў бяссільнай злосці сціскалі кулакі: варожае судна было на недасягальнай для абстрэлу з мінаносца адлегласці. Але эскадраны мінаносец ішоў поўным ходам. Ад яго не адставалі «Пабядзіцель» і «Забіяка». Усё бліжэй і бліжэй разрываліся варожыя снарады.

Два прамыя пападанні моцна пашкодзілі мінаносец. Але каманда не сыходзіла з месцаў. Маракі помнілі загад вялікага Леніна: не дапусціць ворага да Петраграда.

Узнімаючы пеністыя буруны, з правага борта падышла кананерская лодка «Храбры» і ўзяла пашкоджаны мінаносец на буксір. Ад кармы эсмінца «Пабядзіцель» пацягнулася чорная, як сажа, сцяна: ён прыкрываў мінаносец і лодку дымавой заслонай.

Нямецкі лінкор «Кайзер» безупынку страляў са сваіх гармат, мінаносцы, быццам зграя галодных ваўкоў, набліжаліся да «Грома».

У эскадраны мінаносец «Гром» цераз прабоіны хлынула вада. Трэба было, чаго-б гэта ні каштавала, выратаваць карабель. Ён павінен быў яшчэ служыць рэвалюцыі. На прабоіны быў пакладзены пластыр, і паток вады ў трум крыху зменшыўся.

Кананерская лодка «Храбры» на ўсіх парах вяла на буксіры эсмінец. Дымавая заслона ў пэўнай меры закрывала ад ворага смяртэльна паранены карабель. Але раптам асколкі варожых снарадаў перабілі трос, якім буксіравала лодка эскадраны мінаносец. Карабель бездапаможна павярнуўся


Капітан цеплахода «Стыр» Н. Ганчарэнка з радасцю прыняў героя ў сябе на цеплаходзе.

Ф. Е. Саманчук аглядае пілараму.



ных ваўкоў, набліжаліся да «Грома».

Фёдар пасылаў адну за другой тарпеды ў варожыя караблі. Грымелі гарматы. Адзін з нямецкіх мінаносцаў, як гіганцкі факел, успыхнуў. Пахіліўся на бок і другі — на ім таксама з'явіліся спачатку ледзь прыкметныя языкі полымя, якія праз момант вялізным слупом агню шуганулі ў шэрае неба... Варожы карабель нахіліўся і пачаў павалі тануць...

носам да нямецкага лінкора, які не пераставаў яго праследаваць.

Кананерская лодка «Храбры» падышла да правага борта «Грома». У кают-кампаніі карабельны партыйны камітэт эскадранага мінаносца прыняў рашэнне перайсці на кананерскую лодку «Храбры» і працягваць бой.

— Пакінуць карабель! — аддаў загад камандзір эсмінца.

Акідваючы развітальным позір-



**Многа пісем атрымлівае Ф. Е. Саманчук.** На здымку: **Фёдар Еўдакімавіч з жонкаю Фядорай Грыгораўнай і ўнукам Жэнем разглядае атрыманую пошту.**



**Аляксандр Саманчук, сын Фёдара Еўдакімавіча, загінуў у час Айчыннай вайны ў адным з партызанскіх баёў, які вяло злучэнне двойчы Героя Совецкага Саюза Каўпака. Яго ордэн Айчыннай вайны І ступені і медаль «Партызану Айчыннай вайны» І ступені перададзены бацькам у музей.**

кам родны карабель, матросы адзін за другім пераскоквалі на палубу «Храбрага». Кананерская лодка вяла агонь па варожых суднах.

Фёдар пакідаў карабель апошнім. На палубе валяліся пакарэжаныя лісты металу. У прабоіны, нягледзячы на пластыр, ірвалася вада. Цяжка было пазнаць у раненым бездапаможным караблі прыгажуна «Грома», на якім праходзіла фёдарава служба.

У Саманчука балюча сціснулася сэрца. «Бывай», — прашаптаў ён і скочыў на палубу «Храбрага».

Нямецкія мінаносцы падыходзілі да тонучага «Грома». Намер ворагаў быў ясны: яны хацелі захапіць совецкі карабель, які яшчэ не паспеў патануць. «Назад! — мільганула ў Саманчука думка.— Лепш няхай мінаносец пойдзе на дно, чым дастанецца ворагу...»

Не раздумваючы, Фёдар кінуўся назад на эскадраны мінаносец.

На караблі ірваліся снарады. Адзін з іх трапіў у камандзірскую рубку. Усё вакол ахутаў дым. «Да кінгстонаў!.. Адкрыць і затапіць карабель».

Нямецкі эсмінец выходзіў на траверз тарпеднага апарата. Прапусціць такі шчаслівы выпадак было-б проста недаравальна. Фёдар прыпаў да тарпеднага апарата... Момант — і выпушчаная тарпеда трапіла ў варожы эсмінец. Велізарны слуп агню і вады ўзняўся ў непрывычнае асеннее неба. Варожы эсмінец, быццам гіганцкімі абцугамі, быў пераламаны надвое. Абедзве часткі імгненна танулі. Вялікая, ні з чым непараўнальная радасць ахапіла Фёдара.

Марудзіць усё-ж было нельга. Другія варожыя караблі маглі вось-вось захапіць «Гром». Фёдар кінуўся да кінгстонаў, але патокі вады не далі яму туды дабрацца. На вочы Саманчуку раптам трапіў жмук паклі. Фёдар схапіў яго абпаленымі рукамі, змачыў у нафце, што тлустымі плямамі разлілася па палубе. «У парахавы пограб!» — маланкай пранеслася думка. На нейкую, можа тысячную долю секунды, нібы ў калейдаскопе, перад вачыма Фёдара прамільгнула згорбленая бацькава постаць, калі ён праводзіў сына ў армію, шырокі разліў далёкага Дняпра, агністыя літары адозвы «Флот выканае свой абавязак перад Вялікай Рэвалюцыяй!», і Саманчук кінуў палаючую паклю ў парахавы пограб...

...На кананерскай лодцы «Храбры» ўбачылі, як велізарны слуп агню і вады ўзляцеў над морам. Аглушальнай сілы выбух ускалыхнуў наваколле. Матросы знялі бесказыркі, ушаноўваючы бяспрыкладны подзвіг свайго сябра, звычайнага беларускага хлапца...

Але Саманчук тады не загінуў, хоць аб гэтым не ведалі больш як трыццаць гадоў.

Выбуховая хваля выкінула непрытомнага Фёдара ў мора. Магчыма, дапамагло тое, што бушлаты маракоў былі падшыты марской травой, а можа тое, што Фёдар хутка прыйшоў у прытомнасць і нейкі час здолеў трымацца на вадзе.

У гэты час нямецкія мінаносцы падбіралі сваіх маракоў. У адну з шлюпак нечыя рукі ўцягнулі і Фёдара, які ўжо зноў траціў прытомнасць.

Разам з іншымі рускімі ваеннапалоннымі немцы завезлі Фёдара ў лагер у Лібаву, а адтуль — у Аўгустоў.

Лагер знаходзіўся ў балоцістай мясцовасці. Тры дашчаныя баракі былі абкружаны двайным радам калючага дроту. На вуглавых вышках дзень і ноч з кулямётамі дзяжурылі нямецкія салдаты.

Зімовай ноччу Саманчук з сябрамі, перарэзаўшы нажніцамі дрот, уцёк з лагера. Аднак да-

**Сын Фёдара Еўдакімавіча Анатоль вучыцца ў вячэрняй школе.** На здымку: **Анатоль** (злева) **з таварышамі рыхтуецца да заняткаў па фізіцы.**



**У Суткаўскай школе адбылася сустрэча вучняў з Фёдарам Еўдакімавічам. Затаіўшы дыханне, слухаюць вучні расказ героя.**





Хутка сын Павел паедзе здаваць экзамены ў Нахімаўскае вучылішча, а пакуль ён дапамагае бацьку.

лёка адысці яны не змаглі. Знясіленыя голадам, з абмарожанымі нагамі, Фёдар і два яго таварышы — сібірак Лобаў і ўкраінец Няхода — брылі, прадзіраючыся праз заснежаныя зараслі аўгустоўскіх лясоў.

На другі дзень іх злавілі і, жорстка збіўшы, завезлі ў яшчэ больш страшны лагер — Калоніцу.

Кожны дзень у гэтым лагеры паміралі людзі. Трупы выносілі і складалі ў штабелі, як дровы.

Летам Фёдар уцёк і з гэтага лагера. Днём ён спаў у ціхіх закутках — дзе-небудзь у лесе на сонечным угрэве, а па начах ішоў, трымаючы кірунак на ўсход.

Калі вывучалі Моанзундскую марскую бітву, былі выяўлены дакументы II з'езда прадстаўнікоў Балтыйскага флоту, які адбываўся 1(14) кастрычніка 1917 года ў Гельсінгфорсе, скліканы партыяй бальшэвікоў. У адным з пратаколаў прачыталі выступленне дэлегата-матроса з эскадранага мінаносца «Гром» Ведзянёва аб выратаванні каманды эскадранага мінаносца «Гром» кананерскай лодкай «Храбры». «Машыніст Саманчук, — гаварыў Ведзянёў, — не пажадаў перайсці на «Храбры», застаўся на мінаносцы і, каб мінаносец не дастаўся праціўніку, узарваў яго і загінуў разам з караблём».

Ведзянёва адшукалі на Урале. У горадзе Тукуме (Латвійская ССР) знайшлі былога рулявога мінаносца «Гром» Заляйціса. А калі прыехалі ў Пярэдзелку, каб сустрэцца з родзічамі Саманчука, то ўбачылі самога Фёдара Еўдакімавіча.

Нядаўна мы пабывалі ў Фёдара Еўдакімавіча. Ён пазнаёміў нас са сваёй сям'ёй. Старэйшы сын яго загінуў у часе Айчыннай вайны. Сярэдні працуе і вучыцца ў вячэрняй школе. Малодшы вучыцца ў школе і марыць паступіць у Нахімаўскае вучылішча. Уся сям'я героя — працоўная, чэсная, савецкая сям'я.

У райкоме партыі нам сказалі пра Фёдара Еўдакімавіча:

— Гэта двойчы герой. Першы подзвіг ён зрабіў, калі ўзрываў мінаносец, другі — скромна прамаўчаўшы пра яго. Вялікая скромнасць — гэта таксама геройства.

У Суткаўскай школе комсамольцы афармілі выстаўку аб гераічным шляху свайго земляка.



# НОВЫЯ КНІГІ

## Голас сучасніка вялікіх падзей

«Вялікі мой і ціхі акіян» — так назваў свой новы зборнік вершаў беларускі паэт Рыгор Няхай. Але не пра бязмежныя марскія прасторы, не пра далёкія плаванні вядзе ён гутарку з чытачом. Варта прачытаць першы верш зборніка, які, дарэчы, і даў назву ўсёй кнізе, каб зразумець, што мае на ўвазе аўтар.

Шуміць ад ветру спелае
калоссе
Там, за дарогай,
Дзе ляжаў дзірван.
І не сярпоў крывых —
Камбайнаў просіць
Вялікі мой
І ціхі акіян.

Мы адчуваем за гэтымі словамі глыбокі сэнс. Сваім вялікім акіянам аўтар называе не толькі неаглядны абшар калгасных палёў, а ўсё наша кіпучае, натхнёнае жыццё, поўнае слаўных перамог і гістарычных падзей, поўнае радасцей і хвалявання.

Натхняльнікам усіх перамог савецкага народа, яго розумам і сумленнем з'яўляецца наша слаўная Комуністычная партыя. Ёй прысвячае паэт некалькі пранікнёных вершаў. Адзначаючы непарушнае адзінства, маналітнасць партыі і народа, Рыгор Няхай гаворыць:

Думы партыі, думы народа
У адзіны зліліся паток...

У другім вершы, прысвечаным Комуністычнай партыі, Рыгор Няхай спрабуе паэтычнымі сродкамі расказаць пра яе гераічную гісторыю ад таго моманту, калі вялікі Ленін абвясціў: «Ёсць такая партыя», і да нашых дзён. І тут зноў паэт падкрэслівае, што ўсе падзеі, усе здзяйсненні, якія адбыліся за гэты час у нашай краіне, непарыўна звязаны з дзейнасцю Комуністычнай партыі.

Думкі аб партыі, аб яе правадырах — В. І. Леніне і І. В. Сталіне праходзяць і праз многія іншыя вершы Рыгора Няхая («Помнік Леніну», «Вялікі план», «Праспект імя Сталіна», «Дума аб правадыру», «Чырвоны Кастрычнік», «Аб выбарах» і г. д.). Лепшае ўражанне сярод іх пакідаюць «Помнік Леніну» і «Праспект імя Сталіна», які заканчваецца цёплымі, пранікнёнымі словамі:

Там, дзе партыя, там міру быць,
Фабрыкам гудзець, шумець
калоссю.
Добра мне, таварышы, што жыць
На праспекце гэтым давялося!

І тут нам уяўляецца ўжо не проста роўны, як струна, абсаджаны духмянымі ліпамі праспект, што пралёг наўскрась праз родны Мінск, а той вялікі і шырокі шлях, па якім савецкі народ ідзе да сонечнай мэты — да комунізма.

Прачытаўшы «Праспект імя Сталіна», адчуваеш, што аўтар, ці, як кажуць, яго лірычны герой, не толькі сучаснік падзей нашай рэчаіснасці, але і ўдзельнік іх. Нажаль, некаторыя вершы гэтага адчування не выклікаюць, і такія вершы, шчыра кажучы, мала ўздзейнічаюць на чытача, не запамінаюцца. Аўтар збіваецца ў іх на агульшчыну, карыстаецца збедненымі паэтычнымі сродкамі, а часам нават і не спрабуе апаэтызаваць агульнавядомыя думкі. Прыкладам гэтага можа служыць верш «Аб выбарах». Што новае адкрываюць перад чытачом такія радкі:

Зрабіў свой выбар наш народ
У дні семнаццатага года,
Разбіўшы путы і прыгнёт,
Здабыў чаканую свабоду.

Усё, здаецца, правільна і ў гістарычных, і ў палітычных адносінах, але паэзіі няма. Пад гэтым вершам можна паставіць любы другі подпіс, і ніхто не заўважыць падмены. Наўрад ці варта было ўключаць такі верш і яшчэ некаторыя, падобныя да яго, у зборнік.

Цікава, што многія вершы, адзначаныя налётам літаратурнай агульшчыны, датаваны апошнімі гадамі. І гэта прымушае задумацца: ці не стаў паэт менш патрабавальным да сябе, ці не збіваецца ён на «шлях найменшага супраціўлення»? Хочацца спадзявацца, што гэта не так, што тут у наяўнасці толькі часовыя няўдачы. Тым больш, што побач з асобнымі няўдалымі вершамі мы знаходзім і такія, як «На Чырвоным возеры вясна...», «Спраўджаныя сны», «Творцу хвала!», і цэлы рад іншых. Вершы гэтыя розныя па свайму зместу, па тэматыцы, па літаратурных сродках. Але ў кожным з іх ёсць паэтычная свежасць, адчуваюцца аўтарскія пошукі, а гэтага чытач ніколі не пакіне незаўважаным. Якая любоў да роднага краю, да яго прыроды гучыць, напрыклад, у такой паэтычнай замалёўцы:

На Чырвоным возеры вясна,
Загулі палескія нізіны.
Маладая гонкая сасна
П'е ваду з вясновых ручаінаў.

Простымі радкамі, пазбаўленымі непатрэбнай вобразнай вычурнасці, аўтар добра перадае чытачу свой настрой, выклікае цёплыя лірычныя пачуцці.

Аднак і ў гэтым вершы трапляюцца асобныя «абавязковыя» мясціны, якія вельмі лёгка можна скараціць. Зусім непатрэбнай здаецца нам перадапошняя страфа, дзе зноў з'яўляюцца тыя самыя «новыя агні», якія даўно вандруюць з верша ў верш у розных паэтаў.

У першы раздзел зборніка ўвайшлі некаторыя вершы, напісаныя ў даваенныя гады. Большасць з іх адзначана добрым паэтычным густам, лірызмам. Аднак, параўноўваючы іх з тым, што зроблена паэтам за апошні час, пераконваешся, наколькі пашырыліся межы яго паэтычнай творчасці. Цяпер яго цікавіць не толькі тое, што адбываецца ў нашай краіне, але і тое, што робіцца за яе межамі. Ён прысвячае свае вершы далёкім кітайскім сябрам, якія будуюць соцыялізм у сваёй краіне, у яго баліць сэрца па ахвярах нядаўняй вайны ў Карэі, ён не можа заставацца спакойным, пакуль ведае, «што ў Барселоне грымяць турэмныя ключы».

У раздзел «Слова аб дружбе» ўвайшлі вершы, прысвечаныя 300-годдзю з дня ўз'яднання Украіны з Расіяй і будаўніцтву гідраэлектрастанцыі на возеры Дрысвяты. Па сваёй тэматыцы прымыкае да іх і нізка вершаў «З кахоўскага сшытка». Відаць, што аўтар добра ведае тое, аб чым ён піша, што на свае вочы бачыў ён і слупы, якія «панеслі святло аратым» ад электрастанцыі на Дрысвятах, і Новую Кахоўку на беразе толькі што народжанага мора. Шкада, што ў вершах гэтых цыклаў заўважаецца апісальнасць, некаторая статычнасць у адлюстраванні падзей. Амаль нічога не сказаў паэт пра тых, чыімі рукамі ўзведзена ГЭС «Дружба народаў», хто ў самааддананай мірнай працы заваёўваў «кахоўскі плацдарм».

Вельмі мала і бледна прадстаўлен раздзел «Дзецям». Тут няма вершаў, напісаных «спецыяльна» для дзяцей. Ці варта было, ў такім разе, вылучаць іх у асобны раздзел?

... Перагорнута апошняя старонка. Якое-ж засталося ўражанне? Перад намі паэт, які валодае ўласным голасам, які шукае сваёй асабістай сцежкі ў паэзіі. Праўда, здараецца, што паэт часам губляе сваю сцежку. Што-ж, творчая праца — нялёгкая, і паэтычная дарога — няроўная.

Лепшыя вершы Рыгора Няхая, якія мы знаходзім у апошнім яго зборніку «Вялікі мой і ціхі акіян», даюць нам падставы чакаць ад паэта большых творчых поспехаў, большага ўзлёту.

А. ВОЛЬСКІ.

# Заняволеная моладосць

**І. КАЛІНАЎ**

Спасылаючыся на дадзеныя Арганізацыі Аб'едналых Нацый, уругвайская газета «Эль Пак» пісала, што ў мінулым годзе кошт жыцця насельніцтва, у параўнанні з 1948 годам, узрос ва Уругваі больш чым у паўтара раза, у Бразіліі — амаль удвая, у Аргенціне — больш чым утрая, Чылі — амаль у чатыры з паловай разы, у Балівіі — у сем разоў, а ў Парагваі — амаль у 15 разоў.

Факты гавораць самі за сябе. Нярадаснае жыццё працоўных лацінаамерыканскіх краін, урады якіх падпарадкавалі сваю эканоміку захопніцкім планам амерыканскіх імперыялістаў. Але горш за ўсё жывецца моладзі, дзецям. Палітыка гонкі ўзбраенняў і мілітарызацыі, якую ажыццяўляюць ЗША, прывяла да таго, што больш паловы дзяцей краін Лацінскай амерыкі не наведваюць школу. Нехапае школьных памяшканняў, мала настаўнікаў. Асігнаванні на адукацыю не перавышаюць 8 працэнтаў бюджэта, у той час як на ваенныя выдаткі ідзе 45 працэнтаў нацыянальных бюджэтаў.

У Лацінскай Амерыцы — самая высокая ў свеце дзіцячая смяротнасць. Многія дзеці галадаюць. Беспрытульныя бадзяюцца па вуліцах і дарогах, спяць пад адкрытым небам, ідуць у банды злачынцаў. Закон забараняе прымаць на работу падлеткаў маладзей 14 год, але яны працуюць нават на такіх заводах, дзе работа з'яўляецца шкоднай для здароўя.

Заняволенне каланізатарамі ЗША краін Лацінскай Амерыкі добра відаць на прыкладзе Бразіліі. У гэтай краіне багата карысных выкапняў, лясоў, садоў. Але просты народ не мае самага неабходнага для жыцця. Краіна перажывае вострыя крызіс. Паўночнаамерыканскія імперыялісты пралезлі тут ва ўсе галіны эканамічнага, палітычнага, соцыяльнага і культурнага жыцця. Яны імкнуцца давесці Бразілію да становішча калоніі Злучаных Штатаў Амерыкі. Падаткі, якія спаганяюць дзяржава, штаты і муніцыпалітэты, перавышаюць 30 працэнтаў нацыянальнага даходу. Цэны растуць, рэальная заработная плата зніжаецца.

Моладзь Бразіліі асуджана на нечуваную галечу. І тут законы забараняюць дзіцячую працу на шкодных для здароўя прадпрыемствах. Але ўсюды працуюць няпоўналетнія. У тэкстыльнай, шкляной прамысловасці каля 60 працэнтаў рабочых — дзеці. За роўную працу з дарослымі дзеці-падлеткі атрымліваюць палавінную заработную плату. На металургічным прадпрыемстве «Індустрыа металуржыка ін кометы», як пісала бразільская газета «Імпрэнса популар», нядаўна гаспадары правялі масавае звальненне дарослых рабочых і замянілі іх няпоўналетнімі. Тысячы бразільскіх дзяцей дзесяці-і дванаццацігадовага ўзросту працуюць па адзінаццаць гадзін на цукровых плантацыях.

У Бразіліі звяртаюць больш увагі на жывёлу, чым на дзяцей. Для Нацыянальнай управы па ахове дзяцей у бюджэце асігнавана 7 510 тысяч крузейро, а для аховы жывёлы — 25 151 тысяча крузейро. 26 тысяч дзяцей бразільскіх працоўных жывуць у нечувана цяжкіх умовах. З 9 мільёнаў дзяцей ад сямі-да чатырнаццацігадовага ўзросту наведваюць школу ўсяго толькі 3,5 мільёна. Паводле дадзеных Управы па кантролю над працай няпоўналетніх, 90,98 працэнта падлеткаў, якія працуюць, з'яўляюцца непісьменнымі.

Большасць дзяцей жыве ўпрогаладзь. У адным з раёнаў Рыодэ-Жанейра ў час медыцынскага агляду ў 95 працэнтаў дзяцей былі выяўлены адзнакі недаядання. Голад прымушае бяздольных бацькоў прадаваць сваіх дзяцей. Тая-ж газета «Імпрэнса популар» паведамляла, што сям'я бежанцаў, апынуўшыся ў безнадзейным становішчы, прадала аднаму гандляру ўсіх сваіх малалетніх дзяцей за мех мукі і два гаршкі цукру-сырцу.

Цяжкія матэрыяльныя ўмовы і адсутнасць медыцынскай дапамогі вядуць да масавай смяротнасці дзяцей. Як зазначала газета «Карэйо да Ман'я», у Бразіліі праз кожныя 42 секунды памірае адно дзіця. Гэта азначае, што за год памірае больш за 700 тысяч дзяцей. Дырэктар Бразільскай нацыянальнай управы па дзіцячых праблемах прафесар Мартагао Жэстэйра заявіў, што па дзіцячай смяротнасці Бразілія займае адно з першых месц у свеце.

Не лепш жывецца і дзецям працоўных Уругвая. Газета «Эль Дэбатэ» пісала: «У «пацуковых пасёлках» і халупах Уругвая працэнт галадаючых дзяцей вельмі высокі. Дзеці, якія жывуць у сельскай мясцовасці, асуджаны на голад калі не на ўвесь час, то, прынамсі, на працягу большай часткі года. Хлеб, малако, мяса, гародніна і садавіна ніколі не з'яўляюцца ў рацыёне дзіцяці. Скучанасць, у якой жывуць людзі, прастытуцыя, зладзейства, распуста... з'яўляюцца тымі жахлівымі ўмовамі, у якіх расце і развіваецца дзіця».

Паводле дадзеных сельскагаспадарчага перапісу, у сельскай гаспадарцы Уругвая працуюць 36 400 дзяцей маладзей 13 год. Іх працоўны дзень неабмежаваны. З 131 800 дзяцей школьнага ўзросту, якія жывуць у сельскай мясцовасці Уругвая, школу наведваюць менш палавіны. Настаўнік Хуліо Кастор, які арганізаваў школьную сталовую ў адным з «пацуковых пасёлкаў» дэпартамента Такуарэмба (жывёлагадоўчы раён Уругвая), указвае, што некаторыя школьнікі ніколі не елі мяса і на працягу ўсяго свайго жыцця харчаваліся толькі бульбай, фасоляй і кукурузай... Жывуць гэтыя дзеці ў жахлівых, пабудаваных з гліны і саломы, халупах, гразь, цесноту і занядбанасць якіх нельга нават апісаць. Агульная пасцель на двух, трох і больш дзяцей — звычайная з'ява. Колькасць дзяцей, якія хварэюць на туберкулёз, выклікае трывогу. З васьмісот агледжаных дзяцей школьнага і дашкольнага ўзросту 43 працэнты схільны да туберкулёзу... Часта можна сустрэць дзяцей ва ўзросце аднаго году, якіх ніколі не мылі ні мылам, ні вадой.

Сялянскія дзеці не ведаюць маленства. У дванаццаць год сын сельскага працаўніка выконвае ўсе земляробчыя работы, на якія здольны дарослы мужчына. Ён не мае часу на забавы і не ведае, што такое адпачынак і гульні.

У цяжкім становішчы знаходзяцца дзеці працоўных горада. Паводле далёка не поўных дадзеных, прыведзеных газетай «Эль Б'ен публіко», па вуліцах Уругвая бадзяюцца ад 7 да 10 тысяч беспрытульных дзяцей.

Вынікам цяжкіх эканамічных умоў з'яўляецца рост дзіцячай злачыннасці. «Праблема злачыннасці падлеткаў, — адзначае уругвайская газета «Эль Дэбатэ», — набывае размеры, якія выклікаюць трывогу».

У Чылі на хранічны голад асуджаны дзесяткі тысяч юнакоў, дзяўчат, дзяцей. У чылійскай вёсцы існуе паўпрыгонны рэжым. Паводле дадзеных Міністэрства сельскай гаспадаркі Чылі, у цэнтральных абласцях краіны сярэдняя дзённая заработная плата батрака складае менш кошту аднаго кілограма хлеба. Маладыя чылійскія сяляне не маюць магчымасці задавальняць свае элементарныя патрэбы: яны не ведаюць, што такое кіно, не ўмеюць чытаць і пісаць. Маладыя батракі за мізэрную плату працуюць па 12 — 14 гадзін у суткі. Паводле заявы сенатара Сальвадора Альендэ, у Чылі налічваецца 1 600 тысяч непісьменных старэй чатырнаццацігадовага ўзросту. Больш 600 тысяч дзяцей не могуць наведваць школу з-за адсутнасці сродкаў на вучобу і харчаванне. Паводле заявы суддзі па справах малалетніх Самуэла Гахардо, пасля Злучаных Штатаў Чылі займае першае месца па дзіцячых злачынствах. У адным толькі Сант-Яго налічваецца 10 тысяч малалетніх злачынцаў. Усё гэта з'яўляецца вынікам уплыву галівудскіх фільмаў пра гангстэраў і забойцаў.

Правячыя класы Чылі асудзілі дзесяткі тысяч дзяцей на нечалавечыя пакуты. Як піша газета «Дэмакрасія», яны «жывуць міласцінай, спяць пад мастамі ракі Маноча, туляцца ў страшэнных трушчобах на спецыяльна адведзеных брыдкіх і шкодных для здароўя ўчастках».

Не лепшая доля падрастаючага пакалення Аргенціны, Балівіі, Эквадора, Венецуэлы, Гватэмалы і іншых краін Лацінскай Амерыкі.

Нягледзячы на праследаванні і люты паліцэйскі тэрор, актыўную барацьбу за свае правы вядзе і моладзь Лацінскай Амерыкі. Ні адно выступленне працоўных мас за паляпшэнне эканамічных умоў жыцця, ні адна кампанія барацьбы супраць амерыканскіх каланізатараў, за мір, свабоду і нацыянальную незалежнасць не праходзіць без удзелу моладзі. Папярэдзіць вайну, адстаяць мір — пад такім лозунгам выступаюць разам з іншымі прагрэсіўнымі сіламі мільёны юнакоў і дзяўчат Лацінскай Амерыкі.

**Так распраўляюцца з тымі, хто прагне свабоды.** На здымку: на вуліцы сталіцы Калумбіі — Баготы пасля студэнцкай дэманстрацыі.



## Сатыра і гумар



# Майстры шуміхі

Тарас ЖЫГАЛКА

Мал. А. Волкава.

Маладога і, па думцы некаторых, даволі таленавітага сатырыка Алеся Піскуна разбудзіў пранэзлівы тэлефонны званок. Было каля адзінаццаці гадзін раніцы. Алесь павярнуўся на другі бок, нацягнуў на галаву тоўстую пуховую коўдру. Але тэлефон зноў даў такую руладу, што патрэбна было-б не менш дзесяці коўдраў, каб хоць крыху заглушыць яго. Алесь, як апараны, ускочыў з ложка і схапіў тэлефонную трубку. З яе, нібы з падзямелля, ледзьве далятаў да слыху падобны на камарыны піск голас.

— Алю, алю! Кватэра Піскуна? Ты, Алесь? Добры дзень!

Алесю хацелася запытаць, каго чэрці паднялі так рана і што наогул ад яго трэба. Але сатырык быў чалавекам асцярожным і такія думкі ўголас не выказваў: ці мала якія потым могуць быць непрыемнасці. Стараючыся надаць голасу адценне ветлівасці, ён запытаўся:

— З кім маю гонар гаварыць?

На другім канцы провада пырснулі смехам.

— Вось дзівак... З кім маю гонар?.. Ха-ха-ха!.. Які там гонар! Няўжо ты мяне не пазнаеш?

Не, Алесь ніяк не мог прыпомніць гэты голас. Ён у задуменні пачухаў правай нагой левую, потым левай — правую і катэгарычна заявіў:

— Прабачце, але я нешта вас не прыпомню, хоць голас вельмі і вельмі знаёмы, — схлусіў ён на ўсякі выпадак.

— Дзіва што знаёмы, — запішчаў у трубцы голас. — А я думала, ты адразу пазнаеш. Заснаўся?.. Нядобра, чуеш, сваіх забываць...

— Але хто вы, хто?

Сатырык падкурчыў босыя ногі, каб часам не прастудзіцца.

— Няўжо ты, Алесь, Тэцю Чумакову забыў?

— Тэця! Не, сапраўды? Адкуль вы так неспадзявана?..

— Сатырык гаварыў, а сам стараўся ўспомніць гэтую Тэцю. Уяўлялася нешта кірпаносае, кругленькае, пухлае.

— Яна самая. Значыць, успомніў!?. А я ехала і хвалявалася, думала, можа і гаварыць не захоча: паэтам стаў, куды там!

— Што вы, Тэця, хіба можна!

— Пакінь ты на вы са мной гаварыць, нават сорамна і няёмка. Ці ўжо забыўся, як разам кароў пасвілі і ты мяне за косы цягаў? Задзіра ты быў. Не забыўся?.. А я дык часта прыпамінаю. Іншы раз зойдзе гаворка пра літаратуру, я і кажу: гэты самы Піскун мяне за косы цягаў... Можа я цябе ад работы адарвала? Якое нічога — ведаю вашага брата — усё пішаце.

Алесь Піскун стараўся адгадаць, навошта яго турбуе Тэця. Вядома, не так сабе. А Тэця гаварыла безупынку, і сатырык нарэшце вырашыў, што варта спыніць яе, бо інакш справа можа зацягнуцца.

— А вы... ты, Тэця, па якой справе?

Тэця адкашлялася і пачала здалёк:

— Яно, вядома, па справе. А толькі хацелася-б пагаварыць аб ёй пры сустрэчы.

Гэта ўжо зусім не ўваходзіла ў разлікі Алеся: сёння ён думаў дапісаць байку, якую ўжо месяцаў чатыры абяцаў аднаму часопісу.

— Ведаеш, не змагу я. Такая недарэчнасць. Адным словам, я зусім хворы і наогул не выходжу на вуліцу.

— А я не надоўга, ты дзе жывеш?

Бесцырымоннасць Тэці збіла сатырыка з тропу. «Што ёй трэба, вось прыстала!» — злосна падумаў ён, але адрас назваў.

— Я зараз, Алеська, і доўга цябе не затрымаю.

Праз некалькі хвілін Тэця сядзела ў мяккім крэсле і, здавалася, не збіралася пакідаць яго.

— Ты, Алесь, не адбрыквайся і не думай нават... Цябе так чакаюць. Зямляк... і ўсё такое. Канешне, кожнаму хочацца на цябе паглядзець. Ды і маці рада будзе.

— Як яна там жыве?

— Нічога, нават добра. Мы яе нядаўна хацелі на піонерскі збор запрасіць. Як-жа, гэта нават вельмі цікава! Яна-ж маці нашага сатырыка-земляка... гэта здорава! Хіба ў кожным раёне ёсць сатырык?..

— Дарэмна, — скромна заначыў Піскун, — што яна можа расказаць.

— Яшчэ колькі, — захліпнулася Тэця. — Толькі яна не згадзілася.

— Яна ў мяне такая... сарамлівая.

— Так, так, праўда... Дык, значыць, згода, едзеш да нас. Хіба табе цяжка прыехаць? У маці пагосціш. У народ трэба ісці, таварыш паэт.

— Добра, Тэця. Калі-ж у вас будзе гэты сход?

— Дваццатага. Ты асабліва не рыхтуйся. Што табе!.. Раскажаш, як сам працуеш, параіш ім, як трэба вершы пісаць, байкі і наогул там усё... Спрэчкі мы падрыхтуем. Дам камсамольцам даручэнні, дык яны такія прамовы закоцяць — ахнеш... Нарэшце, мы яшчэ што-ні-што прыдумаем.



Тэця гэтак-жа імкліва пайшла, як і прыйшла. Алесь прысеў да стала, узяў недапісаную байку, выцягнуў вечнае пяро, але так і не напісаў ніводнага слова. Успомнілася роднае сяло, маці, хлапчукі-таварышы. Нават гэтая Тэця, недарэчная лапатуха, хітрая, як ліса, дзяўчына. Дома ён быў гады са тры назад. Прыехаў увечары і назаўтра раніцай выехаў у горад. Нават не было часу распытаць пра былых сяброў, таварышаў. А вось яны помняць яго, цэняць і чакаюць ад яго нечага незвычайнага!.. Алесь уявіў сабе залу, поўную маладых, дапытлівых юнакоў і дзяўчат, будучых пісьменнікаў, паэтаў, драматургаў, крытыкаў. Яны чакаюць яго, алесевых, парад, цёплага слова, таварыскай падтрымкі. Вучні Алеся Піскуна! Сатырык некалькі разоў паўтарыў гэтыя тры словы, смакуючы іх гучанне, і ўсміхнуўся задаволеной усмешкай. «Ну, што-ж, няхай яго тут крытыкуюць. Затое помняць у нізах, нават просяць выступіць. Ён стаў вядомым наперакор усім гэтым крытыкам. Вось чаму ён едзе. Няхай усе ведаюць, што яго цэняць...»

У раён ён прыехаў пад вечар. Не спяшаючыся, прайшоўся ўздоўж-упоперак па вуліцы, потым завітаў да даўняга свайго знаёмага, аднаго з кіраўнікоў раёна — Тараса Лукіча Пачакайкі.

— А-а-а, Алесь! Колькі лет, колькі зім не бачыліся! — прывітаў той сатырыка. — Сядай. Рады гасцям. Якім ветрам цябе занесла? Пісьменнікі нешта абмінаюць наш раён. Ну, ды мы не крыўдуем.

Алесь расказаў, што выцягнула яго на радзіму Тэця Чумакова, якая некалі разам з ім вучылася ў школе. Пачакайка раскацiста зарагатаў.

— Чумакова, кажаш? Яна ў нас майстар на такія штукі. Каго хочаш у раён прывязе. Тэцю хлебам не кармі, а толькі давай магчымасць сустрэчы арганізоўваць.

— Мне сорамна, — перабіў яго Алесь, — але я так і не запытаўся, кім яна ў вас працуе?

— Камсамолам заварочвае. Агонь-дзеўка. Яе і ў вобласці цэняць. Яшчэ пра што-небудзь у Маскве толькі пачынаюць думаць, а яна ўжо, глядзіш, такое мерапрыемства закоціць, такога шуму наробіць...

— А як у вас справы наогул? — запытаўся Алесь, спадзеючыся пачуць у адказ нешта гераічнае.

— Справы няважныя, — пакру-

ціў галавой Пачакайка. — Вясна зацягнулася, а корму не хапае. Летась недаацанілі сіласныя культуры, спахапіліся вельмі позна.

— Але-ж, відаць, вы не сядзелі склаўшы рукі. У вас гэтакі баявы комсамольскі важак, — не сунімаўся Алесь Піскун.

— У іх быў шырокі план правядзення нядзельнікаў, суботнікаў і нават адзін чацвер праварнулі. Але, як кажуць, з вялікага грому малы дождж бывае... Дык можа пойдзем у клуб?

Там, як апантаная, насілася па зале Тэця Чумакова. Яна аддавала кароткія загады, у адну хвіліну пасылала кудысьці па дзесятку нарочных, усміхалася прыйшоўшым, падбадзёрвала іх, жартавала. Адным словам, Тэця нагадвала ў гэтыя хвіліны фельдмаршала, які выйгрывае бітву.

Затым пачалася афіцыйная частка. Сатырыка сустрэлі апладысментамі, умеру гучнымі і ўмеру доўгімі. Потым былі выступленні: хвалебныя і крытычныя, патэтычныя і абыякавыя з пісанага ліста. Чыталі свае творы і пачынаючыя. Іх было трое: малады калгаснік, пажылы літработнік раённай газеты і вучаніца дзесятага класа. Калгаснік прачытаў неблагія вершы, і Алесь зазначыў гэта ў блакноце. Вершы літработніка і вучаніцы Алесю не спадабаліся, былі яны бездапаможна слабыя, без іскрынкі пачуцця. Яму хацелася сказаць дзяўчынцы, што ёй не варта траціць час на іх складанне. Але ўсё было так урачыста, што сатырык не адважыўся псаваць людзям настрой.



Вечарам ён застаўся задаволены. Як ні кажы, а маладыя і немаладыя ўжо людзі зразумелі, што пісьменніцкая праца цяжкая, што трэба многа ведаць і вельмі многа працаваць, каб стаць сапраўдным інжынерам чалавечых душ. Па сіле сваіх магчымасцей здолеў Алесь перадаць гэтым прагным людзям свае веды, вопыт. Нарэшце, была прынята пастанова ў восемнаццаць пунктаў з падпунктамі — вынік крапатлівай працы спецыяльнай камісіі. У ёй прадугледжвалася правядзенне вялікай работы па выхаванню літаратурных кадраў раёна.

Шкада было аднаго, што пачынаючых пісьменнікаў у раёне аказалася ўсяго трое. Але сатырык не звярнуў на гэта ўвагі, тым больш, што яго назаўтра запрасілі правесці творчы вечар для работнікаў шавецкай майстэрні, потым вечары мяняліся, як надвор'е ўвосень. Алесь выступаў, чытаў звычайна дзве адны і тыя-ж байкі: «Каламазь» і «Дрот і крот». Чытаў і рос ва ўласных вачах. Упершыню ён адчуваў сябе тут сапраўдным паэтам.

Пасля афіцыйных частак, як і бывае ў такіх выпадках, арганізоўвалася таварыская вячэра. Алесь Піскун сядзеў побач з Тэцяй, слухаў яе бясконцыя расказы, і яму было хораша і радасна.

Аднойчы яны ішлі з Тэцяй па вуліцы, яна трымалася за яго руку і здавалася зморанай, але шчаслівай.

— Ну, як ты, Алеська, лічыш, вечар быў не благі, праўда?

— Добры вечар, Тэця! Для моладзі ён шмат дасць карыснага.

— А галоўнае, ты разумееш, Алесь, у вобласці ахнуць! Цяпер мне не сорамна будзе выступіць, расказаць, што мы зрабілі, пакрытыкаваць кіраўніцтва... Праўда, здорава?

— Пачакай, Тэця, гэта яшчэ толькі пачатак. Вось як будзе ў нас цэлая плеяда маладых пісьменнікаў з гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, тады ўжо можна і выступіць.

— Якія з іх пісьменнікі, няхай лепш сваімі справамі займаюцца. А ты не параіш, якое можна яшчэ мерапрыемства правесці? Такое, каб ніхто да яго не мог дадумацца.

Алесь спыніўся, як укапаны. Вось што яно азначае!.. Ён рыхтаваўся, адрываў сябе ад работы, ехаў за сотні кіламетраў і, аказваецца, рабіў усё для таго, каб Тэця магла паставіць у плане яшчэ адну «птушку». Алесь цяпер наперад ведаў, што тая доўгая пастанова, якую ён з такой стараннасцю рэдагаваў, ніколі не будзе выканана. Уявілася, як летась гэтая самая Тэця, замест таго каб сіласаваць траву, бульбоўнік, арганізоўвала розныя мерапрыемствы, прызначаныя толькі для стварэння шуму. Няўжо яна так усюды? Праводзіць не танцы, а культурна-масавае мерапрыемства, не маёўку — а аздараўленча-фізкультурнае мерапрыемства. Можа нават вячэра была не вячэрай, а якім-небудзь неабходна-сілападтрымальным мерапрыемствам? «Майстры шуміхі», — злосна думаў ён.

І ў галаве сатырыка раптам пачаў афармляцца вобраз. У памяці мільгацелі трапныя параўнанні, калючыя словы, рыфмы — узнікала новая байка. Яна нараджалася без мук і надакучлівых патуг, пра якія так прыгожа і ярка расказваў пачынаючым гадзіну назад сатырык. Але ён не здзіўляўся і не думаў над гэтым. Ён імкнуўся ўтрымаць у галаве наплыўшыя вобразы, цэлыя радкі байкі.

— Чорт вазьмі, — думаў ён хвілін праз пятнаццаць. — Такую тэму знайшоў, такую тэму! Не шкадую нават, што прыехаў сюды. Гэты лысы (меўся на ўвазе адзін з рэдактараў часопіса) цяпер мне заплоціць поўны ганарар. Ды я яшчэ пагляджу, ці варта там друкаваць. Можа, спачатку аддаць у газету, а потым ужо ў часопіс.

Вярнуўшыся дадому, Алесь Піскун узяўся за байку. Хутка ён напісаў яе. Занёс рэдактару. Той чытаў і здзіўляўся. Была яна, здаецца, вострая, уедлівая. З радкоў даволі празрыста паўставаў вобраз Тэці Чумаковай і аднаго раённага кіраўніка, пра якіх рэдактару расказаў Алесь. Усё-ж рэдактару здалося, што ў байцы чагосьці не хапае. Але чаго, ён так і не мог дадумацца.

А не хапала там Алеся Піскуна.

# Калом па колу

**Уладзімір КОРБАН**

**Байка**

Мал. Н. Гурло.

У пагоні за рублём ад мора і да мора
Лятун ва ўсіх раёнах пабываў.
Якіх ён толькі спраў не спрабаваў!..
І вырашыў нарэшце стаць шафёрам:
Тут можна хабар уварваць,
Завёзшы «улева» пару грузаў.
А не, дык, як звычайна, ў кузаў
Няцяжка «рабчыкаў» набраць.
Глядзіш — і зазвінела у кішэні...
Прыняўшы гэткае рашэнне,
Даведаўся лятун, як стартар цісканудь,
Ды як трымацца за баранку...
На працу паступіў. І вось, на ранку,
За горад вырашыў махнуць,
Хаця, уласна, і не ведаў ён машыны.
Імчыцца па шашы, ажно лапочуць шыны.
Прасторна! 'Шчэ не распачаўся рух.
І раптам — чых! — матор заглух...
«З якой гэта прычыны?» —
Падумаў хуткаспечаны шафёр.
Падняў капот, упяліўся ў матор,
Глядзіць, як той баран на новыя вароты,
Ды не прычыну, фігу бачыць там.
Ну вось бяда! Ну вось турбота!
«Браток, дапамажы! На чарку дам!» —
Заенчыў ён сустрэчнаму шафёру.
Спыніўся той. «Ну, што ў цябе за гора?»
«Ды вось, не разбяруся сам.
Напэўна, карбюратар
Улез у радыятар.
З прычыны той, здаецца мне,
У матор не паступае газу».
«Што, што? Куды улез?» — «Ды не!» —
Няўмеку майстар вывяў адразу.
«Ты страціў іскру, браце мой!»
«Як страціў?» «Ды ўцякла у кола».
«А што рабіць?» «Крутні, брат, галавой,
Ды ўрэж калом па шыне, — ты-ж не кволы, —
Глядзіш, і іскра знойдзецца. Бывай!»
І паімчаў па дровы ў гай.
Ажно да вечара наўкола
Разносіліся гукі: гак! ды гак! —
Арудаваў над коламі дзівак.
Пацеў, стараўся,
Намагаўся,
А іскра не з'яўлялася ніяк.
Ужо ноччу дзівака з машынай адшукалі
І, даўшы у каршэнь, прагналі.
Бывае іншы раз яшчэ і так:
Другі за ўсё гатовы брацца,
Хаця у справах і не можа разабрацца.



# НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ АБ ЦЁТЦЫ




**Нядаўна ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР знойдзена папка з асабістымі дакументамі Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Сярод іх — некалькі партрэтаў паэтэсы, невядомых да гэтага часу, пасведчанне аб нараджэнні, даведкі аб адукацыі.**

**Як вядома, у 1894 годзе Цётка паступіла ў чацвёрты клас гімназіі Прозаравай у Вільні і ў 1901 годзе скончыла яе. Жадаючы працягваць асвету, паэтэса паехала ў Пецярбург і паступіла на агульнаадукацыйныя курсы Лесгафта. Пасведчанне, якое знойдзена сярод асабістых дакументаў паэтэсы, сведчыць аб тым, што Цётка здала экзамены за поўны курс Александраўскай жаночай гімназіі ў Пецярбургу.**

**Сярод асабістых дакументаў Цёткі знаходзіцца заліковая кніжка паэтэсы—вольнай слухачкі Львоўскага ўніверсітэта, у якім навучалася Цётка, жывучы ў эміграцыі.**

**У адным з дакументаў гаворыцца: «Алаіза Пашкевіч, вольная слухачка аддзялення філасофіі, удзельнічала ў семінарах літаратуры польскай, а ў сучасны момант працуе над тэмаю «Батлейкі на Беларусі». У сувязі з гэтым раней падавала прашэнне аб пераводзе яе з вольных слухачоў у лік студэнтаў стацыянарнага навучання, а ў далейшым аб дазволе здачы экзаменаў для атрымання ступені доктара філасофіі».**

**Але як на папярэднія прашэнні, так і на гэта Цётка атрымала адказ: «Адмовіць».**

**Паэтэса-рэвалюцыянерка шмат працавала ў галіне пашырэння асветы сярод працоўнага беларускага народа. Пяру паэтэсы належыць многа артыкулаў, у якіх яна выступала ў абарону беларускай мовы, патрабавала школ для дзяцей-беларусаў на іх роднай мове.**

**Цётка займалася выданнем кніг. На гэтым шляху паэтэса сустрэлася з вялікімі цяжкасцямі. Беларуская літаратурная мова ў той перыяд знаходзілася ў працэсе станаўлення. Не было падручнікаў, у якіх акрэсліваліся-б нормы беларускага правапісу. Гэта было тормазам для выдавецкай работы Цёткі. У лісце да прафесара Б. Эпімах-Шыпілы паэтэса пісала: «Я хачу давецаца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, ды не ведаю, як чаго трымацца».**

**Пяру Цёткі належыць першая кніжка для дзяцей на беларускай мове. У мала вядомай даследчыкам беларускай мовы кніжцы «Гасцінец для малых дзяцей», выдадзеней Цёткаю ў 1906 годзе, змешчана сем кароценькіх апавяданняў у аўтарызаваным перакладзе Цёткі з украінскай мовы. Апавяданні выхоўвалі ў дзяцей пачуцці любві да чалавека працы, навучалі шанаваць сапраўдную дружбу, расказвалі аб з'явах прыроды, аб птушках.**




**Усе гэтыя матэрыялы дазваляюць глыбей асвятліць пытанні, звязаныя з жыццём і літаратурна-грамадскай дзейнасцю паэтэсы.**

**Л. АРАБЕЙ.**

---




**Пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА**

## „КАМБІНАЦЫЙНАЯ АХВЯРА“

Шахматная барацьба грунтуецца на суровай, вельмі паслядоўнай логіцы. Самая малая недакладнасць ігры аднаго з партнёраў пры правільнай ігры другога звычайна выклікае жорсткае і паслядоўнае пакаранне.

Шлях да перамогі, да вельмі своеасаблівай канчатковай мэты шахматнай барацьбы — мата каралю дасягаецца, аднак, не толькі паслядоўным накапленнем адносна маленькіх пераваг, але часам і прыгожымі атакамі, якім спадарожнічаюць **значныя ахвяры** матэрыялу.

Такім чынам, імкненне да перамогі ідзе, з аднаго боку, шляхам выйгрышу, накаплення адносна малазначных пазіцыйных, а затым і матэрыяльных пераваг, з другога боку — шляхам ахвяры свайго матэрыялу, шляхам атакі. Менавіта гэты, другі сродак перамогі, які дае неабмежаваную прастору шахматнай фантазіі, надае шахматнай ігры асаблівую прывабнасць, прыгажосць, узнімае шахматы да ўзроўню мастацкай творчасці.

Паняцце «ахвяры» вельмі шматграннае. Тыя ахвяры, якія непасрэдна прыводзяць да адпаведнай выгады — ці то мата каралю, ці то выйгрышу матэрыялу, або да тых ці іншых значных пазіцыйных пераваг, носяць назву **камбінацыйных ахвяр.**

Кожны пачынаючы шахматыст перш за ўсё павінен навучыцца **камбінаваць,** умець бачыць камбінацыю. Гэта значыць, што ён павінен развіць у сабе своеасаблівы «камбінацыйны зрок», без якога шахматыст не можа па-сапраўднаму ўдасканальваць свае здольнасці, сваю ігру.

Для дасягнення гэтага вельмі карысна ў пачатку свайго шахматнага шляху імкнуцца як мага больш да ўсялякіх ускладненняў і **разумных ахвяр.** Іншымі словамі, ні ў якім разе нельга пазбягаць разумнай рызыкі ў ігры, таму што толькі ў гэтым выпадку шахматыст прывучыцца да вытрымкі ў любых становішчах, да непазбежных на шахматнай дошцы нечаканасцей і неабходнасці хуткай і правільнай арыентыроўкі ў даным становішчы.

Карысна рашаць задачы і эцюды, якія змяшчаюцца не толькі ў кнігах і часопісах па шахматах, але і ў шахматных аддзелах грамадскіх і літаратурна-мастацкіх часопісаў і газет, у календарах і г. д.

Асабліва карысна рашаць самастойна камбінацыі, узятыя з практыкі майстроў. Гэта прывучае да правільных пазіцый, якія сустрэнуцца потым у практыцы ігры.

Абавязкова неабходна ўмець адрозніваць **матыў, тэму і ідэю** камбінацыі.

**Матыў** — гэта тыя ці іншыя вонкавыя адзнакі пазіцыі, якія спрыяюць яе правядзенню, напрыклад, аслабленая пазіцыя ракіроўкі праціўніка, сканцэнтраванне фігур каля якога-небудзь аднаго пункта і г. д.

**Тэмай** называецца канчатковая мэта камбінацыі ў сэнсе яе зместу: напрыклад, ператварэнне прахадной пешкі ў ферзя, мат на апошняй гарызанталі. Тэма шчыльна звязана з матывам і залежыць ад яго.

**Ідэяй** называюцца тыя ці іншыя сродкі ажыццяўлення камбінацыі. Асноўнымі ідэямі з'яўляюцца: **адцягненне, прыцягненне,** перакрыццё дзеяння фігур і г. д.

Разгледзім наступную камбінацыю Х. Р. Капабланкі з партыі М. Батвіннік — Х. Р. Капабланка (Амстэрдам, 1938 г.)



Матывам гэтай камбінацыі з'яўляецца параўнальна слаба абароненая пазіцыя чорнага караля, асабліва слабы пункт f6. Неабходна адцягнуць ферзя чорных ад абароны. Белыя сыгралі 1. Ca3!! (Ідэя адцягнення.) 1. ... Ф : a3, 2. Kh5+! (Яшчэ адной ахвярай фігуры белыя адцягваюць пешку g6, агаляючы пазіцыю караля.) 2 ... gh, 3. Фg5 + Kpf8, 4. Ф : f6 + Kpg8, 5. e7! (Высвятляецца тэма камбінацыі — мат на 8-й гарызанталі.) Пасля некалькіх шахаў чорныя прызналі сябе пераможанымі.

Ніжэй мы прапануем чытачам самастойна рашыць камбінацыю, якая дае белым вялікія перавагі, указаць матыў, тэму і ідэю дадзенай камбінацыі.



Белыя пачынаюць.

Апрача «камбінацыйнай ахвяры», ёсць яшчэ «пазіцыйная ахвяра», аб якой мы раскажам у адным з наступных нумароў часопіса.

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар І. Сакалоўскі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Рукапісы, прысланыя ў рэдакцыю, не вяртаюцца.

Здадзена ў набор 10.V.55 г. Падпісана да друку 26.V.55 г.
Фармат паперы $70 \times 108^{1}/_{8}$. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7.

Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб.

АТ 03455. Заказ 321.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



## ПІСЬМО З КАЛГАСА

Умерана (павольна)

Словы А. АСТАПЕНКІ. Муз. Г. ВАГНЕРА.

Выйдзеш ў поле, поле ды шырокае,
І цябе палоніць далягляд.
Кожны колас жыта развысокага
Гаварыць з табой ад сэрца рад.

Прыпеў:

Прыязджайце да нас у калгас,
У сям'ю вас прымем ў добры час.

Праца тут вясёлая, шчаслівая,
З намі дружыць трактар і камбайн.
Вечарам у клубе гаманлівым
Песняй заліваецца баян.

Прыпеў.

Тут таксама свецяць зоры ясныя,
Умываецца расою дзень,
І дзяўчаты дружныя калгасныя —
Лепей іх не знойдзеце нідзе!

Прыпеў.